Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 34 (4783) 29 жніўня 2014 г.

## Пункцірам

✔ Заслаўе рыхтуецца сустракаць гасцей Дня беларускага пісьменства. Насычаная праграма свята разлічана на два дні. Урачыстае адкрыццё форуму адбудзецца 6 верасня на галоўнай сцэнічнай пляцоўцы каля Гарадскога вала. У гэты ж дзень у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі пройдзе міжнародны «круглы стол» «Сугучча: літаратура як люстэрка эпохі» з удзелам беларускіх ды замежных пісьменнікаў і прэзентацыя альманаха «Сугучча».

✔ Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Павел, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, падтрымаў ініцыятыву Саюза музычных дзеячаў і Інстытута культуры па занясенні традыцыйных звонаў праваслаўных храмаў заходніх рэгіёнаў нашай краіны ў спіс нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА.

✔ II Нацыянальны форум «Музеі Беларусі» пройдзе 26 — 27 верасня ў Гомелі на пляцоўцы лёгкаатлетычнага манежа «Дынама». Экспазіцыі прадставяць каля 100 установ краіны. У межах мерапрыемства будзе праведзены конкурс.

✔ 2 верасня праект «Дыя@блог. Пра літаратуру» запрашае абмеркаваць справы айчыннага кнігадрукавання разам з дырэктарам — галоўным рэдактарам Выдавецкага дома «Звязда» Алесем Карлюкевічам. Праграму можна пaглядзець у 9.50, 18.55 і 22.35 на тэлеканале «Беларусь 3» альбо на сайце *diablog.by.*

✔ Выстаўка работ сучасных беларускіх мастакоў *Zabor* адкрыецца 8 верасня ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. На працягу месяца госці і жыхары Мінска змогуць убачыць работы дзесяці сучасных беларускіх мастакоў.

✔ У вёсцы Пушкары каля Гродна з 1 па 24 жніўня праходзіў пленэр разьбяроў па камені на тэму «Гродна. Мінулае і сучаснасць». У ім бралі ўдзел шэсць беларускіх скульптараў, у тым ліку ініцыятар мерапрыемства — выбітны майстар з Гродна Уладзімір Панцялееў. Створаныя кампазіцыі запачаткуюць парк каменных скульптур, якія мяркуецца адкрыць ужо ў верасні.

✔ А ў нядзелю гродзенцы будуць вітаць Міжнародны фестываль вулічных культур *Grand Teatro.* На фэст з'едзецца не менш як 40 артыстаў з Беларусі, Расіі, Украіны. Галоўнай сцэнай стане пляцоўка перад маладзёжным цэнтрам «Гродна», дзе адбудзецца адкрыццё фэсту, парад удзельнікаў, фотасесія для гараджан, гала-канцэрт.

✔ Міжнародны фестываль агню адбыўся ў мінулыя выхадныя ў Мінскім раёне. Больш як 70 удзельнікаў з Беларусі, Расіі і Украіны сабраліся ў Ратамцы, каб прапанаваць гасцям шыкоўнае агнявое шоу. Выступленні артыстаў суправаджаліся не менш уражальнай музыкай: ад твораў сярэднявечча да сучаснага хард-рока.

✔ Пасля рэстаўрацыі адкрываецца Палац Агінскіх у Смаргонскім раёне. Чарговы этап адраджэння сядзібы ў Залессі пачаўся ў 2011 годзе. Будаўнічыя работы ўжо завяршаюцца, а ўрачыстасць з гэтай нагоды адбудзецца ў канцы верасня.





У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася прэзентацыя факсімільнага перавыдання Тураўскага Евангелля XI стагоддзя.

Артыкул чытайце на стар. 12 ▶

# Кнігі як птушкі…

**Сустрэча дзвюх традыцый, дзвюх культур адбылася ў мінскай кнігарні «Кніжны салон». У эпіцэнтры — дыялог пра жыццё і творчасць кітайскага перакладчыка Гао Мана.**

Увагу наведвальнікаў кнігарні ў гэты дзень прыцягвалі рэпрадукцыі каліграфічных партрэтаў беларускіх пісьменнікаў. Іх аўтар — Гао Ман, які доўгія гады жыве ўвагай да літаратуры і культуры славянскіх народаў. Нарадзіўся мастак і перакладчык у 1926 годзе ў Харбіне. Цяпер жыве і працуе ў Пекіне. Яшчэ з 1950-х гадоў ведае Мінск і Беларусь. Быў знаёмы з Заірам Азгурам, Максімам Танкам. Напрыканцы 1950-х гг. разам з Гэ Баацюанем пераклаў на кітайскую мову кнігу выбранай паэзіі Максіма Танка. У кнігарні на асобных паліцах — томікі перакладаў, публіцыстыкі, гісторыка-літаратурных матэрыялаў, альбомы Гао Мана. Гэтыя выданні цягам апошніх гадоў ён перадаў беларускім аматарам кітайскага мастацкага свету.



Адам Мальдзіс.

Таму невыпадкова імпрэза сабрала ў беларускай кнігарні самых розных людзей, найперш пісьменнікаў, мастакоў, а яшчэ — супрацоўнікаў Міністэрства замежных спраў, факультэта міжнародных зносін, Інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, «Россупрацоўніцтва», Пасольства Таджыкістана ў Беларусі, гасцініцы «Пекін»… Сярод удзельнікаў вечарыны — людзі, якія асабіста знаёмы з Гао Манам, сустракаліся з ім у Пекіне: Навум Гальпяровіч, Лі Цзо, Вераніка Карлюкевіч… Арганізатарам імпрэзы выступіў Выдавецкі дом «Звязда», дзе была падрыхтавана кніга, прысвечаная творчасці 100 паэтаў Кітая, — «Пад крыламі Дракона». Над перакладамі для яе рупіўся лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікола Мятліцкі. А падтрымку ў рэалізацыі праекта аказалі Міністэрства інфармацыі і Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ. Дарэчы, яго дырэктар доктар філалагічных навук Аляксандр Гардзей, выступаючы на сустрэчы ў «Кніжным салоне», падкрэсліў гатоўнасць і інстытута, і кітайскага боку ўвогуле да новых крокаў супрацоўніцтва. У прыватнасці, у адным з найбліжэйшых нумароў часопіса «Нёман» выйдзе своеасаблівы «кітайскі сшытак», які прадставіць сучасную кітайскую прозу. Перакладчыкі на рускую мову з арыгінала — мінскія аматары кітаістыкі.

Фота Наталлі Асмола.

Успамінамі пра сустрэчу з Гао Манам у Пекіне падзяліўся паэт і журналіст Навум Гальпяровіч. Дарэчы, у Гао Мана ёсць верш, прысвечаны беларускаму калегу. У падрадкоўным перакладзе ён гучыць так: «Ты прывёз з Мінска/ Мядовае віно сваёй Радзімы,/ Калі я выпіў глыток,/ То адразу прыйшло да мяне гора./ Шматлікія мае беларускія сябры/ Пакінулі жыццёвы і мастацкі свет./ Цяпер ты прыехаў да нас./ І каля падножжа Вялікай Кітайскай Сцяны/ Я зрабіў малюнак з цябе./ Хачу пакінуць тваю ўсмешку,/ Твае сардэчныя словы,/ Бляск тваіх вачэй». Кнігі падобны да птушак. Вось і кнігі Гао Мана з вятрамі сяброўства, дружбы, добрымі і цёплымі аўтографамі заляцелі ў Беларусь. Дзякуючы кнігам-птушкам, дарогу якім у шырокі свет адкрывае Гао Ман, чытачы знаёмяцца з літаратурамі славянскіх народаў. Паэт і каліграф перакладае рускую і ўкраінскую паэзію. Высокую ацэнку атрымала яго работа па перастварэнні паэмы Ганны Ахматавай «Рэквіем». Гао Ман пераклаў і паэму Тараса Шаўчэнкі «Кацярына».

З цікавасцю слухалі ўдзельнікі вечарыны мастака, кніжнага графіка Георгія Паплаўскага. Гао Ман неаднойчы расказваў кітайскім чытачам пра беларускага творцу, друкаваў у розных выданнях рэпрадукцыі з яго работ. Адзін з гэтых артыкулаў у свой час быў перакладзены на беларускую мову і надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва». Георгій Георгіевіч падзяліўся ўражаннямі ад знаёмства ў «Кніжным салоне» з рэпрадукцыямі партрэтаў беларускіх пісьменнікаў Якуба Коласа, Янкі Купалы, Алеся Адамовіча, Васіля Быкава, Максіма Танка, Святланы Алексіевіч, выкананымі Гао Манам. Беларускі мастак адзначыў добрую школу каліграфа, падкрэсліў яго высокі прафесіяналізм. Расказаў Георгій Георгіевіч і пра свае паездкі ў Кітай, шматлікія краіны Азіі. Словы ўдзячнасці Гао Ману выказаў кітайскі мовазнаўца, паэт, перакладчык, каліграф Лі Цзо, які зараз працуе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. У яго перакладзе на рускую мову ў Мінску выйшла кніга вершаў класіка літаратуры Паднябеснай Лі Бая. Між іншым Лі Цзо добра вядомы як каліграф. Адна з яго выставак прайшла ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Што цікава, да першых вершаваных практыкаванняў Лі Цзо яшчэ ў Пекіне, у час вучобы ва ўніверсітэце, натхніў менавіта Гао Ман. А вось цяпер у Беларусі Лі Цзо выдае свае пераклады класічнай кітайскай паэзіі на рускую мову. Хочацца верыць, што Лі Цзо, які даўно жыве ў нашай краіне, стане генератарам многіх праектаў па перакладзе кітайскай паэзіі і на беларускую мову.



Фота Наталлі Асмола.

Гао Ман.



Фота Наталлі Асмола.

Падчас прэзентацыі ў «Кніжным салоне».

Вечарына ў «Кніжным салоне» прыцягнула ўвагу беларускіх паэтаў, празаікаў — Алеся Бадака, Алега Ждана, Таццяну Сівец, Адама Мальдзіса, Святлану Дзянісаву, Уладзіміра Мазго, музейных і бібліятэчных работнікаў... Удзел у сустрэчы браў і намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша. У галоўнай кніжнай скарбніцы краіны захоўваецца вялікі збор кніг на кітайскай мове. Будзем спадзявацца, што папаўняць у яе фонды і кнігі добрага сябра беларускай культуры Гао Мана.

**Мікола МІРШЧЫНА**

*З нагоды*

# Пра «Бярозку» асобна



Прэзентацыя новага часопіса «Бярозка» — «пілота», выхад якога прымеркаваны да Дня беларускага пісьменства, і канцэпцыі выдання ўвогуле — прайшла ў дзіцячай бібліятэцы № 6 г. Мінска. Адбыўся «круглы стол», падчас якога бібліятэкары аналізавалі і ацэньвалі выданне, рабілі заўвагі, давалі парады. «Пратакол» прэзентацыі і расшыфроўку запісу «круглага стала» можна будзе прачытаць у адным з бліжэйшых нумароў «ЛіМа».

# Проста фантастыка!

Прэмія Еўракон — самая прэстыжная прэмія ў галіне навуковай фантастыкі, існуе з 1972 года, ад часу правядзення першага еўрапейскага канвента навуковай фантастыкі ў італьянскім горадзе Трыест.

Беларускі часопіс фантастыкі «Космопорт» (заснавальнік і галоўны рэдактар член Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхаіл Дзеравянка), які публікуе творы як айчынных, так і замежных аўтараў, з'явіўся на свет значна пазней — у жніўні 2013-га. Аднак першы ж удзел часопіса з Беларусі ў Еўраконе — 22 — 24 жніўня, Ірландыя — прынёс перамогу — першую прэмію ў намінацыі «Зала славы. Лепшы часопіс».

— Нягледзячы на тое, што рынак на тэрыторыі былога СССР з пачатку перабудовы быццам бы і насычаны ўсялякага кшталту фантастычнай літаратурай, цікавасць да гэтага жанру не згасае, — кажа, не хаваючы шчаслівую ўсмешку, рэдактар «Космопорта». — Ды і не дзіва: чалавеку, хоць ён і ад нараджэння не крылаты, уласцівы і палёт — палёт думкі, душы і імкненне спазнаць невядомае. Але часопіса фантастыкі ў Беларусі да нядаўняга часу не было. Паколькі я не толькі люблю, але і пішу фантастычныя апавяданні і аповесці, ідэю стварэння часопіса выношваў даўно. А вось ажыццявіць — з дапамогай маіх калег-фантастаў, у тым ліку Сяргея Булыгі, цяперашняга намесніка галоўнага рэдактара «Космопорта» — змог толькі ў мінулым годзе. Таму мне асабліва радасна ад такога хуткага прызнання нашага выдання Еўрапейскім кангрэсам. Тым больш што члены камітэта ESFS — сусветна вядомыя пісьменнікі.

Дарэчы, кангрэс у наступным годзе намечана правесці ў красавіку, і не надта далёка ад нас — у Санкт-Пецярбургу.

**Лізавета ПАЛЕЕС**

# Свята ведаў на палатне

Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь штогод далучаецца да святкавання Дня ведаў. Вось і сёлета да 1 верасня тут можна пабачыць выстаўку адной карціны мастака Анатоля Волкава — чарадзейны свет жывапісу, які, як і школьныя прадметы, патрабуе пільнага вывучэння.

Работа «1-га верасня» створана ў 1950 годзе, часткова перапісана прыкладна ў 1960-м. Гэта адзін з лепшых твораў айчыннага жывапісу на тэму школьнага дзяцінства. З 1950 па 2008 год карціна экспанавалася на 12 выстаўках, у тым ліку ў Маскве і Бухарэсце, была апублікавана ў 19 кнігах і часопісах, неаднаразова рэпрадуцыравана. Мастак, бацька траіх дзяцей, з асаблівым пачуццём адлюстраваў на палатне мілыя клопаты першага школьнага дня.

**Анжэла ПРАЖАН**

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Сучаснаму чытачу

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі штогод выразна вылучаецца ў святкаванні Дня беларускага пісьменства. Вось і сёлета сталічныя творцы плануюць заявіць пра сябе ярка. Хто з іх прадставіць на святе новыя кнігі? Пра гэта ды іншае — размова карэспандэнта «ЛіМа» са старшынёй аддзялення Міхасём Пазняковым.**

— Пісьменнікі сталічнага аддзялення возьмуць удзел у многіх святочных мерапрыемствах, у тым ліку ў прэзентацыях выданняў. Сярод іх — Вячаслаў Бандарэнка, чые кнігі прысвечаны 100-годдзю Першай сусветнай, а таксама Вялікай Айчыннай вайне, Віктар Шніп, Дзмітрый Пятровіч (дарэчы, ураджэнец Заслаўя), Валеры Максімовіч, Ірына Тулупава, Уладзімір Дарашэвіч. Я прадстаўлю зборнік прозы і паэзіі «Спявае жыта», які пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура», а таксама выданні з серый «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі», «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» ды «Пераможцы» — сумесны праект Мінскага гарадскога аддзялення СПБ і Цюменскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі. Да падрыхтоўкі апошняга спрычыніўся і Ганаровы консул Рэспублікі Беларусь у Цюменскай вобласці, паэт, член СПБ Уладзімір Шугля — ён таксама прыедзе на прэзентацыю ў Заслаўе. Тут можна будзе пабачыць новыя кнігі Змітрака Марозава, Яніны Жабко, Уладзіміра Ліпскага, Уладзіміра Гніламёдава, Міхаіла Галдзянкова, Вольгі Сакаловай, Міхася Башлакова, Уладзіміра Мазго, Міколы Чарняўскага, Ніны Галіноўскай, Алеся Савіцкага, Казіміра Камейшы, Васіля Шырко, Міколы Маляўкі ды інш. Многія пісьменнікі будуць занятыя ля стэндаў Выдавецкага дома «Звязда», выдавецтваў «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», «Беларусь», «Мастацкая літаратура», «Чатыры чвэрці» ды іншых.

**— Ці з'явіліся за апошні час новыя сябры-выдавецтвы?**

— Так. Нядаўна наша аддзяленне пачало супрацоўнічаць са сталічным выдавецтвам «Каўчэг», у якім ужо выйшаў зборнік вершаў і паэм Валерыя Максімовіча «Сярод блукаючых планет» (серыя «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі»). Добрыя стасункі нашы пісьменнікі наладзілі з выдавецтвам «Кнігазбор». Працуем і з прыватным выдавецтвам Аляксея Вараксіна, а таксама з «Мінкапрынтам».

**— Ці шмат маладых звяртаецца да вас са сваімі творамі?**

— Ужо некалькі гадоў сумесна з выдавецтвам «Чатыры чвэрці» выпускаем кніжную серыю «Мінскія маладыя галасы». Рыхтуем калектыўны зборнік вершаў, апавяданняў, эсэ пераможцаў літаратурнага конкурсу, які мы праводзілі сярод студэнтаў трынаццаці факультэтаў БДУ. Яго вынікі штогод падводзяцца ў Доме Масквы, а падборка лепшых студэнцкіх вершаў неўзабаве будзе надрукавана ў часопісе «Белая Вежа».

Яшчэ адзін падобны конкурс, які дапамог адкрыць новыя маладыя імёны, правялі сумесна з адміністрацыяй Савецкага раёна сталіцы. Зрэшты, творчыя спаборніцтвы ладзім ва ўсіх раёнах Мінска. Узрост удзельнікаў — ад 10 да 25 гадоў. Вельмі дапамагае Камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама: палажэнні аб конкурсах рассылаюцца ва ўсе школы, інфармацыя даводзіцца да кіраўніцтва раёнаў. Падыходзіць да завяршэння і конкурс, прымеркаваны да 70-годдзя перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Паступіла больш як 600 твораў, прычым, не толькі ад вучняў школ і гімназій, але і ад студэнтаў ды маладых вайскоўцаў, у тым ліку з іншых рэгіёнаў Беларусі.

Працуем і з навучэнцамі Мінскага суворааўскага ваеннага вучылішча: нямала іх цікавіцца літаратурай. Сумесна са Студыяй ваенных пісьменнікаў праводзім конкурсы, у якіх удзельнічаюць суворааўцы, курсанты Ваеннай акадэміі ды вайскоўцы.

За апошнія два гады Мінскае гарадское аддзяленне СПБ папоўнілася 12 маладымі творцамі. Каля 30 рыхтуюцца да ўступлення. Рэкамендавана да прыёму Дар'я Лёсава, на рахунку якой нямала адметных публікацый.

Пры нашым аддзяленні працуе Школа маладога літаратара: ладзім індывідуальныя заняткі ды семінары для найбольш



Фота Кастуся Дробава

перспектыўных творцаў. Моладзь часта прыходзіць да нас на кансультацыі.

Сёлета ў сталіцы праходзіў Фестываль маладой паэзіі, у якім паўдзельнічала больш як 30 аўтараў. Такі ж фэст мяркуецца ў новым сезоне. Плануем і надалей далучаць іх да ўдзелу ў Мінскіх паэтычных чытаннях і разнастайных літаратурных вечарынах.

**— Што асабіста для вас значыць Дзень беларускага пісьменства?**

— Гэта вялікае нацыянальнае свята, якое дазваляе падвесці вынікі творчай працы: задача пісьменніка — ствараць добрыя кнігі, адказваючы такім чынам на пытанні, якія хвалююць сучаснага чытача. Акрамя таго, гэта магчымасць прадэманстраваць творчыя набыткі, адчуць запатрабаванасць сучаснай літаратуры, сустрэцца з сябрамі, знаёмымі ды, безумоўна, з чытачамі.

**Яна ЯВІЧ**

# Мастак, філосаф, віртуоз

**Персанальная выстаўка палотнаў мастака-графіка, члена Беларускага саюза мастакоў Сяргея Балянка «Нічога іншага не прапануецца…» адкрылася ў сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. У экспазіцыю ўвайшлі карціны, напісаныя алеем, і афорты.**

Сяргей Балянок працуе ў кніжнай ды станковай графіцы і станковым жывапісе. Мастак афарміў мноства кніг, у ліку якіх — «Калыска для коткі» Курта Вонегута, зборнік фантастыкі «Прадаецца планета» і г. д. Сёлета творца адсвяткаваў 60-годдзе. На яго рахунку — больш як дзясятак персанальных выстаў. Работы захоўваюцца ў музейных калекцыях Беларусі, Швейцарыі, Італіі, Нідэрландаў, Венгрыі, Польшчы і ў прыватных зборах.

На выстаўцы асабліва шырока прадстаўлены афорты Сяргея Балянка. Сярод іх — «Кавалачак памяці» (1985), «Хлопчык на шары» (1991), «Апошні аднарог» (1998), «Дваццаць пяць і яшчэ некалькі» (2005), «Забыты кубачак кавы» (2009), «Няскончаная п'еса для ігры ў тры рукі» (2011), «Уздоўж учарашняга лета» (2012), «Снег захрас яшчэ мінулай ноччу» (2014) ды іншыя. Назвы шматзначныя. Творца сапраўды ўмее здзіўляць — мабыць, таму, што заўсёды шчыры ў сваіх работах і свядома адмаўляецца ад папярэдніх накідаў ды малюнкаў.

Паводле мастацтвазнаўцы Ларысы Фінкельштэйн, глыбіня віртуознай, пластычнай філасофіі Сяргея Балянка —



Фота Кастуся Дробава

у кожным штрыху, кожнай кропцы, кожным яго графічным аркушы. Увогуле, філасафічнасці ды псіхалагізму ў яго графіцы нашмат больш, чым у нейчых словах. А творчасць мастака ў цэлым вылучаецца лапідарнасцю, лірызмам, тонкасцю ліній.

**Яна ЯВІЧ**

# Па загадках Кэрала

Выправіцца ў свет кніг Льюіса Кэрала гамяльчане і госці горада змогуць падчас акцыі «Бібліяноч-2014», якая пройдзе ў Беларусі 12 верасня.

Відовішчнае шоу па матывах знакамітых твораў «Аліса ў Краіне цудаў» і «Аліса ў Залюстроччы» абяцаюць наведвальнікам супрацоўнікі Гомельскай гарадской бібліятэкі імя А. І. Герцэна. Аліса, Кот, Трус, Каралева ды іншыя вядомыя казачныя персанажы Кэрала сустрэнуць гасцей каля ўвахода ў «Герцэнку». Тут будзе арганізаваны флэшмоб, прысвечаны творчасці дзіцячага пісьменніка.

Далей казачныя героі пяройдуць у будынак кніжніцы, дзе на кожным паверсе наведвальнікаў будуць чакаць тэатралізаваныя сцэнкі па матывах Алісіных вандровак. Адбудуцца тэматычныя выстаўкі — гадзіннікаў, капелюшоў, майстар-класы, шахматны турнір і інш. Арганізатары паспрабуюць як мага дакладней узнавіць атмасферу Краіны цудаў і Залюстрочча ў духу старой Англіі.

У акцыі змогуць паўдзельнічаць усе жадаючыя. Абвешчаны і творчы конкурс «Спадабацца Алісе», куды можна прадставіць уласныя вырабы, створаныя па матывах казак Льюіса Кэрала.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Смалявіцкі пленэр

**Выстаўка смалявіцкага арт-пленэру педагогаў-мастакоў «Лета ў правінцыі» адкрылася ў Салігорскім краязнаўчым музеі. Экспазіцыя аб'ядноўвае мастакоў-настаўнікаў з усіх рэгіёнаў краіны.**

Такая сустрэча творцаў праходзіць на Смалявіччыне трэці год запар. Для ўдзельнікаў гэта выдатная магчымасць наладзіць новыя кантакты, абмяняцца досведам з калегамі ды назапасіць матэрыялы на будучы навучальны год.

Прадстаўленыя ў экспазіцыі работы, выкананыя ў розных тэхніках і напісаныя алеем, пастэллю, акварэллю, сталі вынікам двух папярэдніх пленэраў педагогаў-мастакоў. На ўсіх палотнах вывы найпрыгажэйшых мясцін нашай зямлі.

**Арына КРАЙКО**

# На ровары — у пушчу

**Музей народнага побыту і старадаўніх тэхналогій плануецца адкрыць у Нацыянальным парку «Белавежская пушча», ва ўрочышчы Перароў. Цяпер тут ствараюцца экспазіцыі.**

Размесціцца музей побач з адкрытым сёлета гасцявым домам. У экспазіцыйных залах турысты пабачаць унікальныя прадметы пушчанскага побыту. Будуць праходзіць і майстар-класы вясковых умельцаў, рамеснікаў, а таксама выступленні самадзейных мастацкіх калектываў.

Для паляпшэння якасці абслугоўвання турыстаў распрацаваны новыя маршруты: у Свіслацкім лясніцтве — веласіпедна-пешаходны, а ў Язвенскім — пешаходны пад назвай «Язычніцкая дуброва». Ідзе праца над турыстычнымі маршрутамі ў раёне аб'язной пушчанскай дарогі: у Броўскім лясніцтве — «Па слядах Напалеона», у Свіслацкім — «Пушчанскія дубравы».

**Дана ХОДНІЧ**

Міхась ПАЗНЯКОЎ



Палову чарговага водпуску, як і ў многія папярэднія гады, я зноў правёў у родным Заброддзі, што на Быхаўшчыне. На маё шчасце, захавалася наша бацькоўская хата, утульная, светлая і цяпер. Тут я нарадзіўся і пражыў першыя сямнаццаць гадоў, шчодрыя на адкрыцці, уражанні і пачуцці. Сюды, дзе б я ні быў, заўсёды клічуць мяне жыццёвыя дарогі. Тут па-ранейшаму адпачываю душой, чэрпаю сілы, энергію і натхненне. Частку вершаў з новага забродскага цыкла прапаную чытачам «ЛіМа».

**АЎТАР**

## На радзіме

*Край мой любімы, самотны, суцешлівы,*
*Ты яшчэ квецішся дзіўнай красой.*
*Хата бацькоўская кволай усмешкаю*
*Здрадлівы боль супакойвае мой.*

*Чую за Грэзай «курлы» жураўлінае,*
*Гэта і іх дарагая зямля,*
*Каб наталіцца гаючай радзімаю*
*Зноўку дамоў прылятаюць здаля.*

*Сад адзічэлы душою гасціннаю*
*Спеліць, люляе старанна плады,*
*Верай жыве ён, напэўна, адзінаю,*
*Што мы аднойчы прыедзем сюды.*

*Зззяюць кілімы лугоў шматкалёрныя,*
*Дыхаюць мёдам навокал палі.*
*Божа, якія прасторы*
*тут родныя,*
*Рай, у якім мы*
*калісьці жылі.*

*Клёны далонямі вітаюць стагодня,*
*Кліча дзяцінства сцяжынкамі ўдаль*
*Рады да слёз,*
*мая вёска,*
*сягоння я,*
*Ты мне — калыска*
*святлістая змаль.*

*Сэрцам прачулым пяшчоту ўбіраючы,*
*Слаўлю бацькоўскі, найлюбасны кут,*
*Жыць можна ў розных краях*
*прыпяваючы,*
*А нарадзіцца й памерці —*
*вось тут.*

## Татаў сад

*Сумна ў татавым садзе,*
*Мне яго не пазнаць.*
*Па дзве яблыні ў радзе —*
*Пастарэлі, маўчаць.*

*І старэчыя грушы*
*Без гасцінцаў сваіх,*
*А бывала, за вушы*
*Не адцягнеш ад іх.*

*Слівы ссохлі і вішні,*
*Сад парос крапівой…*
*І чаму гэтак выйшла*
*На зямлі дарагой?..*

*Мы лятаем па свеце*
*І шукаем там рай,*
*А ён тут, мае дзеці,*
*Дзе бацькоўскі наш край.*

*І давайце вясною*
*Мы прыедзем сюды,*
*Каб над роднай зямлёю*
*Сад квітнеў малады.*

***

*Запалю сярод*
*ночы касцёр*
*Пад вячыстым,*
*зажураным клёнам,*
*І ў цішы ад зямлі*
*і да зор*
*Палюбуюся духам ягоным.*

*І да чуйных, прасветленых слоў*
*Пашукаю таемныя дзверы,*
*Каб між іх я святыя знайшоў*
*І на чыстай накрэсліў паперы.*

*Тымі словамі б сэрца крануць,*
*Што ў будзённасці шэрай грубее.*
*Скласці песню з іх хоць бы адну,*
*Ад якой свет крыху падабрэе.*

***

*Лета ў паркалёвым сарафане,*
*З ружаю чырвонай у руцэ.*
*І бярозка вабіць белым станам,*
*Быццам бы памылася ў рацэ.*

*Стройны клён прычэсвае чупрыну,*
*У вакно люстранае глядзіць,*
*Пазірае светла на рабіну,*
*Што пачырванела і трымціць.*

*Салавей развёў такія трэлі,*
*І салоўкі гэтак — у адказ,*
*Што сады вакол памаладзелі*
*І вяргіні выйшлі на паказ.*

*Слухаю, гляджу і адчуваю*
*Сам сябе бадзёрым, маладым…*
*Юную бярозку абдымаю —*
*Хоць хвіліну разам пастаім.*

## Матулі

*Лагоднасцю, святлом і дабрынёй*
*Ты з летам цёплым маеш падабанства*
*І кожны раз у памяці маёй*
*Нібыта зноў вяртаеш*
*мне маленства.*

*Хоць быў удзячным сынам я, аднак,*
*Здаецца, не дадаў сваёй любові,*
*Складаю табе песні, ды ніяк*
*Не падбяру заслужаныя словы.*

*У гэтых песнях гучнасці няма,*
*Ні пафасу высокага таксама.*
*Яны затое з сэрца,*
*дзе сама*
*Жывеш ты, мая сонечная,*
*мама.*

## Бацькоўская хата

*Зноў да бацькоўскай*
*роднай хаты*
*Прыехаў я, сталічны госць.*
*І вінаваты, вінаваты,*
*Тугой знішчаю весялосць.*

*Даруйце, сплаканыя вокны,*
*Прабач стары,*
*пашэрхлы дах,*
*Што паміж намі доўгі, слотны*
*Даўно пралёг расстайны шлях.*

*Ты ў маім сэрцы светлай самай*
*Прыгожай згадкаю жыла,*
*Заўсёды бачылася мамай*
*І запрашала да стала.*

*Ты мне гучала галасамі*
*Маленства дзіўнага майго,*
*Што тут блукае за садамі*
*Па сцежках сонечных лугоў.*

*Да хаты мілай прытулюся,*
*Як да матулі ўдзячны сын:*
*Дзень добры, хата,*
*я вярнуўся,*
*І плакаць нам няма прычын.*

## Перад ад'ездам

*Кажу бярозцы: «Да сустрэчы,*
*Прыеду зноўку па вясне!»*
*Яна ў адказ мне*
*сумна шэпча:*
*«А ты не пакідай мяне…»*

*Іду сцяжынкаю вірлівай,*
*Што ў луг шматколерны імкне,*
*Яна мне махаю чуллівай*
*Шапоча: «Не забудзь мяне…»*

*Прайду ля велічнага жыта,*
*Яно задумліва шапне*
*На развітанне мне нібыта:*
*«Што ж пакідаеш*
*ты мяне?..»*

*Вады з калодзежа нап'юся*
*І мне падасца,*
*што на дне*
*Прарочы голас скажа ў скрусе:*
*«Няўжо пакінеш ты мяне?..»*



Фота Кастуся Дробава

Таццяна МАЦЮХІНА



***

*Сабраць з нябёсаў зоркі —*
*не хацела…*
*Знайсці ў радках папірусу*
*адказ*
*Я спадзявалася,*
*я марыла*
*нясмела*
*У прадчуванні,*
*уяўленні*
*Слова «сказ».*
*Закон радкоў Інгардэна*
*адкрыла,*
*Сябе знайшла.*
*У музыцы парыў*
*Мяне натхніў і дараваў*
*надзею,*
*якую ледзь Інгардэн не згубіў*
*у звычным слове,*
*гуку ці фанеме…*
*А я шукала ў небе зоркі*
*знак.*
*Я даравала боль.*
*Табе я веру.*
*Блукаю ў думках і шукаю*
*Млечны Шлях.*

***

*…І словы у нябёсы адпускаю —*
*Вышэй, да зораў,*
*да шчаслівых дзён*
*Адзнакай Вашай мудрасці.*
*Вяртаю*
*Да тайнаў ключ —*
*крыніцы чыстай звон.*
*«Радзей ужо ў другіх*
*сябе шукаю»,*
*Ды оніксавы позірк*
*не схаваць.*
*Удзячнасць словам*
*выказаць жадаю:*
*«Хай дзверы мудрасці*
*Вам адчыняюць,*
*А ў руках блішчыць*
*Ваш запаветны ключ!».*

Алег САЛТУК



## Натоўп

*Натоўпу плыткая рака —*
*Якая мутная вадзіца!*
*Вось прагны позірк дзецюка*
*Услед гуллівай маладзіцы.*

*Тут па мабільніку студэнт*
*Свой учарашні дзень шукае.*
*З сабакам, нібы той агент,*
*Кудысьці нехта паспяшае.*

*А хто так гола апрануў*
*Прывойна-пекную дзяўчыну?..*
*Натоўп мільёны праглынуў*
*У чэргах, офісах, на рынках.*

*Яму не трэба будаваць,*
*Лячыць, вучыць, араць і сеяць.*
*На ўсё натоўпу напляваць:*
*Ён ёсць, і ўсё прабудзе нияк.*

*Яго не менш, яго не больш.*
*Апроч яго няма нічога.*
*Жыве ён толькі сам сабой,*
*Ідзе-брыдзе сваёй дарогай…*

*Куды усе, і я туды.*
*Навошта толькі, сам не знаю.*
*І ні туды, і ні сюды*
*Натоўп мяне*
*не адпускае.*

## Кантрасты

*Прабудуць разам праз вякі*
*Цары, а з імі жабракі.*
*І вечны кліч пад гэтым небам:*
*— Пабольш відовішчаў і хлеба!..*
*Так, першых сёння звыш патрэбы,*
*А хлеба дзесьці не стае.*
*І там ніхто не запяе,*
*А горка з крыўдаю заплача…*
*Бо і не можа быць інакш,*
*Пакуль вярхуюць, хоць памры,*
*Камедыянты, як цары.*



# Анатоль ЗЭКАЎ

# ЗЭКавычкі

## Мішка-бабыль і іншыя



Фота Кастуся Дробава

### *Аўтаэпіграф*

*Сярод вядомых жанраў і спрадвечных*
*Нямала сустракаецца й нязвычных.*
*Ёсць у Андрэя Федарэнкі «Сечка»,*
*Ну а ў мяне хай будуць «ЗЭКавычкі».*

### КАРАНІ

Мой школьны таварыш Колька, на тры гады за мяне маладзейшы, пакінуў кватэру ў Гомелі дачцэ і пераехаў у вёску — у бацькоўскую хату, што побач з нашай. Развёў гаспадарку, засявае-засаджвае прысядзібныя соткі. Сам яшчэ, праўда, пакуль не на пенсіі, але працуе на заводзе пазменна, дык у Гомель на машыне ездзіць. І мяне ўсё ўгаворвае: пойдзеш, маўляў, на пенсію — прыязджай у родную вёску. Карані, яны і ёсць карані.

А мяне і ўгаворваць не трэба — самога цягне бліжэй да прыроды. З унукам Мікітам, вунь як толькі канікулы ў яго, наведваемся ў вёску. Няўтульна неяк у Мінску. Хаця, здавалася б, і да выдавецтваў ды рэдакцый бліжэй, аднак няўтульна. Старэю, мабыць.

### НЯСКОШАНЫ ПОПЛАЎ

Едзем у цягніку. Сусед, які сядзіць насупраць, дзядзька, як бачна, гадоў пад восемдзясят, распавядае:

— Ото ж цяпер не саджу шмат бульбы — лічы, загончык адзін ды градак палоску, дык астатняя ўся плошча пустуе. Трава затое паўсюль. Каб не разносіла паўсюль пустазелле, выкошваю. Наказаў неяк суседцы, у якой адзінай на ўсёй вуліцы карова, каб высушылі ды сенам забралі. Паплавок не чапаў, думаў, ужо самі дакосяць — у яе ж тры сыны-бугаі. А яны зграблі сена, а потым самы больш пытае: «А паплавок, дзядзька, калі касіць будзеш?» Тады я змоўчаў. А наступнай раніцай пайшоў ды выкасіў.

### ГРАБЛІ

Былому саўгаснаму сталяру Юзіку за восемдзясят пяць, а яму ўсё не сядзіцца. Прачнецца, паснедае, кіне кату ліверкі ды курам зерня сыпне — і ў сваю майстэрню. То коссі выштукоўвае, то тапарышчы робіць, то граблі майструе. Дачка як прыедзе з Жлобіна, дык штораз выгаворвае бацьку:

— Што ты ўсё на нагах ды на нагах? Лёг бы ды паляжаў на канапе. А то топчашся і топчашся. Толькі стамляешся.

А ён у адказ:

— Наляжуся яшчэ. А цяпер, калі прылягу, дык больш стамляюся, чым раблю нешта. І ўначы потым варочаюся, ніяк не спіцца.

А то неяк распавядае:

— То ж бачыў, што ў суседкі ў граблях цаўё надламалася. Грабе імі — аж у тры пагібелі згінаецца. А тут яе мужык зайшоў. Дай, думаю, новыя граблі яму дам. У мяне ж іх вунь колькі! Выношу з майстэрні, а ён упёрся — і ні ў якую. І пры гэтым кажа: «А ці чуў ты дзядзька такую гісторыю? То ж ішлі цыган з цыганём. Бачаць, паўз дарогу рыдлёўка новенькая ляжыць. Цыганя малое падхапіла яе і да бацькі. А той аж нагой тупнуў ды як цыкне: «А ну пакладзі на месца! Прынясём дадому — і што? Будзе рыдлёўка — знойдзецца і справа. А няма рыдлёўкі — няма і справы». Так вось, дзядзька, і з граблямі тваімі...» І не ўзяў. Потым ужо я аддаў тыя граблі суседцы, калі прыйшла ў двор, да студні, па ваду.

### АД УСІХ ХВАРОБ

У маім маленстве ў нашай вёсцы быў фельчар, у якога ад усіх хвароб меліся адны лекі — зялёнка. Ці то жывот баліць, ці то нага, ці то вуха... Памажа хворае месца зялёнкай — і будзь здароў. Адно толькі скажа пры гэтым:

— Вось паляжыш крыху, ноч пераначуеш — і назаўтра ўсё як рукой зніме.

Самае дзіўнае: на раніцу выпусціць якая яшчэ ўчора хворая жанчына карову ў радоўку і хваліцца суседцы, што тая фельчарава зялёнка дапамагла.

Што ні кажы, а ўсё ж унушэнне — насамрэч вялікая сіла.

### МІШКА-БАБЫЛЬ

На бярвёнах, якія невядома колькі часу ляжаць тут (ужо і быльнягом зараслі), сядзіць Мішка, мой аднакласнік. Падыходжу, рукаемся, прасіць цыгарэту. Разам закурваем.

— Як жыццё? — пытаю.

— Ай, жыву неяк, — ляніва адказвае Мішка.

Жыве ён адзін. Пад шэсцьдзясят ужо, але так ніколі і не жаніўся...

— Чаму ты, Мішка, жанчыну ў дом не прывядзеш? — цікаўлюся. — Вунь іх колькі вакол: і незамужніх, і разведзёнак, і ўдоў!

А ён дастаў аднекуль з быльнягу, з-за бервяна, на якім сядзіць, пачатую бутэльку віна і, смактануўшы з горла глыток-другі, спакойна так парыраваў:

— Бачыш, купіў паўлітэрку — і яна ўся мая. А жанюся — на дваіх дзяліцца прыйдзецца...

Горкія словы, але ёсць у іх і Мішкава доля праўды. П'юць жанчыны ў вёсцы, амаль не саступаюць мужчынам, а ў асобных сем'ях дык нават і апярэджваюць.

### ТЭЛЕГРАМА БРЭЖНЕВУ

Можна лічыць гэта за анекдот, але як усё тут падобна на праўду.

На ўрачыстым сходзе калгаснікаў з нейкай там нагоды — была такая бюракратычная завядзёнка — старшыня аб'яўляе:

— Ёсць прапанова накіраваць тэлеграму ў адрас ЦК КПСС, яго Палітбюро і асабіста Генеральнага сакратара ЦК КПСС, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР таварыша Леаніда Ільіча Брэжнева.

І раптам з залы чыйсці голас:

— Дык ён жа нам яшчэ на тую, што месяц таму паслалі, не даў адказу.

І смех і грэх, аднак гэта наша не такая ўжо і даўняя гісторыя. На маім вяку, як кажуць, усё было. У час, які потым назвалі застоем.

Зрэшты, адзін мой сябар-вастраслоў неяк у гады перабудовы — было і такое — мімаходзь запытаў у мяне:

— А ведаеш, як расшыфроўваецца слова «застой»? — І тут жа сам і патлумачыў: — Гэта калі ўсе мы галасавалі «за» стоячы.

Было, было...

### КАЦІНЫ ЎКОЛ

У Ларысы Аляксееўны нейкая немач прыхапіла ногі ў каленях. Ды так, што і ўстаць не можа. Асабліва раніцай, пакуль крыху не расходзіцца.

Звярнулася ў прыватную клініку. Агледзелі, сказалі, што гэта за хвароба, параілі зрабіць укол. Кошт яго — восемсот тысяч. Абнадзеілі, што можна адным абысціся, у рэдкіх выпадках — двума.

Зрабілі Ларысе Аляксееўне той дарагі ўкол. Дома села на канапу, ногі выцягнула. Котка прымасцілася побач.

— І ўсё на калені мае пазірае, проста вачэй не зводзіць, — распавядала потым жанчына сяброўцы. — Пэўна, думаю, боль мой знімае. Каты, кажуць, валодаюць такім дарам. А назаўтра бачу: котка мая задняя лапы цягае, абаперціся на іх не можа. Прыйшлося везці ў ветлячэбніцу. І котцы зрабілі ўкол.

— Што, за восемсот тысяч? — аж ёрзае на месцы сяброўка.

— Ды не, котцы — за семдзесят. І ты ўяўляеш: увечары яна ўжо супакою не ведала. Лётала па кватэры як угарэлая. Нават на шафу заскоквала з разбегу.

— Ну а табе ці стала лепш? — цікавіцца сяброўка.

— Крыху хіба. А калі сказала мужу, што, пэўна, трэба яшчэ адзін укол рабіць, то ён ці то жартам, ці то ўсур'ёз прапанаваў: «А можа табе, Ларыса, паспрабаваць укалоць каціны? Бачыш, як Машка гойсае! Ды і ў дзесяць разоў танней усё ж...» І смех і грэх. — І Ларыса Аляксееўна зноў азірае свае калені. А потым спахопліваецца — і да суседкі: — А можа, і насамрэч паспрабаваць, га? Котцы ж вунь дапамагло...

### ГЛОГ НА ДЗЕНЬ ЗДАРОЎЯ

У Мінску праводзяць Дзень здароўя. Бадай, галоўная яго прыкмета — забарона на продаж гарэлкі ў крамах.

Гастраном і аптэка — у адным памяшканні, толькі два розныя ўваходы: у першы — дзверы справа, у другую — злева. Мужчыны добра-такі пакамечанага выгляду адзін за адным зазіраюць спачатку ў краму, а потым, праз хвіліну-другую выбегшы адтуль з незадаволеным выглядам, адразу ж, не сыходзячы з ганка, скіроўваюцца ў аптэку.

— Тры флаконы глогу, — падае скамечаныя купюры першы.

— У адны рукі — толькі два, — адказвае аптэкарка.

— Два дык два, — пагаджаецца пакупнік. Засоўвае іх у кішэні пінжака і спешна знікае.

— Два, — нават не называючы чаго, просіць, ведаючы ўжо адпушчаную норму, другі.

Аптэкарка пералічвае прасунутыя ім у акенца грошы і заяўляе:

— Тут не хапае.

— Не праблема, — лезе ў кішэню кліент. — Зараз дабавім.

І паток аматараў набыць такую жаданую настойку глогу не перапыняецца.

Праз нейкі час у аптэку зазірае прадаўшчыца гастранома. Не па глог.

— Ну, як у вас тут праходзіць Дзень здароўя? — пытае яна ў знаёмай аптэкаркі. — Так, глядзі, і месячны план за дзень выканаеце з дапамогай акцыі.

— А як жа, — пагаджаецца тая. — Ты толькі, Люда, глянь, як аздараўляюцца! — І ківае на дзверы, у якія заходзіць чарговы «хворы».

### САБАКА Ў ЛІФЦЕ

Нашага сабаку — сын яго называе дворцтэр'ер, а так ён Дружок — мы звычайна не выгульвалі, а толькі выпускалі на вуліцу з пад'езда. Ён пабегае самастойна, а потым прыйдзе да ўваходных дзвярэй і чакае, калі хто ўпусціць. Усе жыльцы пад'езда — і дарослыя, і дзеці — ужо ведалі Дружка і расчынялі перад ім дзверы. Ён заскочыць — і па лесвіцы на свой пяты паверх. А там або ў дзверы шкрабае, або хто з суседзяў на званок націсне. Здаралася, што і самі праз нейкі час выглянем: ці не сядзіць на лесвічнай пляцоўцы?

Але аднойчы, упусціўшы Дружка ў пад'езд, нехта выклікаў яму ліфт, а калі Дружок заскочыў у кабіну, націснуў на кнопку патрэбнага пятага паверха.

З таго часу наш сабака ўжо не бяжыць стрымгалоў дадому, а сядзіць і чакае, калі хто выкліча яму ліфт. Да выгод хутка прывыкаеш...

### ШЛЮБ У ДЗЕНЬ СМЕХУ

Мая пляменніца Каця з мужам Жэнем пабраліся шлюбам 1 красавіка — у дзень смеху. Калі маці пасля падачы заявы запытала ў дачкі, навошта яны выбралі гэткі несур'ёзны дзень для такой сур'ёзнай падзеі ў сваім жыцці, Каця запярэчыла:

— Чаму несур'ёзны? Дзень як дзень. А што дзень смеху, дык гэта каб весела жылося.

Няхай так і будзе!

### КУДЫ ЗНІКЛА ЧАРГА

У адным музеі экскурсавод, праводзячы экскурсію для старшакласнікаў, зазвычай паказвае на дзяжу, захінутую абрусам, і кажа:

— Кожная дзяўчына, якая сядае на гэтую дзяжу, знойдзе свайго суджанага, у яе будзе шчаслівае сямейнае жыццё і здаровыя дзеткі.

Дзяўчаткі мітусліва выстройваюцца ў чаргу.

А экскурсавод, як бы і не зважаючы на іх, працягвае:

— Але на дзяжу павінны садзіцца толькі цнатліўкі. Інача ўсё будзе наадварот.

Чарга пад усмешкі аднакласнікаў супрацьлеглага полу імгненна рассейваецца.

Цікава, а каб хлопчыкам прапанавалі тое ж, ці былі б жадаючыя?



Беларуская дэлегацыя на з'ездзе пісьменнікаў. Газета «Правда», 24 жніўня 1934 г.

# Каб літаратура стала магутнай сілай

## Да 80-годдзя Саюза савецкіх пісьменнікаў

**30-я гады XX стагодзя былі часам змен, якія адбываліся ва ўсіх сферах грамадства. Дайшла чарга і да перабудовы літаратурна-мастацкіх арганізацый. У пачатку жніўня 1934 года ў Мінску на Першым Усебеларускім з'ездзе быў створаны Саюз пісьменнікаў Беларусі, які ўзначаліў Міхась Клімовіч.**

### НАПЯРЭДАДНІ З'ЕЗДА

Вялася актыўная падрыхтоўка да агульнага з'езда ў Маскве. У Мінску ёй плённа займаўся Дзмітрый Конік, загадчык аддзела культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б, і многія вядомыя пісьменнікі. У хуткім часе вызначылі 16 дэлегатаў з правам рашаючага голасу і 13 — з дарадчым голасам (госці). Значыць, у склад беларускай дэлегацыі ўваходзіла дваццаць дзевяць чалавек. Не даводзіцца здзіўляцца, што на пятнаццаць з іх прыйшоў у Маскву, у сакрэтна-палітычны аддзел Дзяржбяспекі, кампрамат. У гэты спіс патрапілі Якуб Колас, Янка Купала, Платон Галавач, Пятрусь Броўка, Кандрат Крапіва, Андрэй Александровіч, Міхась Чарот, Ізя Харык. Яны былі "заўважаны" ў сувязях з нацдэмамі, у незадаволенасці кіраўніцтвам партыі, у схільнасці да контррэвалюцыйных арганізацый і нацдэмаўскіх настрояў.

Было і некалькі дэлегатаў, якіх умоўна можна аднесці да «невядомых». Гэта Д. Конік, А. Крапачоў, Г. Раманоўская, Ф. Браўковіч. Каб знайсці пра іх біяграфічныя звесткі, спатрэбілася звярнуцца ў архівы і Нацыянальную бібліятэку.

Пачнём з «невядомага» Коніка. Да сакавіка 1934 года разам з В. Жаброўскім, А. Хацкевічам, А. Чарнушэвічам (першым сакратаром ЦК тады быў Мікалай Гікала) ён уваходзіў кандыдатам у члены Бюро ЦК КП(б)Б. Яго, загадчыка аддзела культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б, добра ведалі журналісты, пісьменнікі, дзеячы тэатра і кіно.

Дзміры Конік нарадзіўся ў вёсцы Букча былога Мазырскага павета ў беднай сям'і дробнага рамесніка. Скончыў пачатковую школу, у сямнаццаць год уступіў у партыю. Змагаўся за новую ўладу, потым быў накіраваны ў Маскву, у Камуністычны ўніверсітэт імя Я. Свярдлова. У ліпені 1933 года яго прызначылі намеснікам наркама Рабоча-сялянскай інспекцыі БССР.

Якуб Колас у артыкуле «Вучоба пісьменнікаў — важная задача», надрукаваным 30 чэрвеня 1934 года ў газеце «Літаратура і мастацтва», адзначаў: «Мне адну вельмі цэнную заўвагу зрабіў учора Дз. Конік. З гэтай заўвагай не магу не згадзіцца, і, калі мне прыйдзецца перавыдаваць «Дрыгву», я гэта перараблю. Гэта ў тым месцы, дзе Нявідны ідзе на тэрыторыю, занятую палякамі, каб праверыць ячэйку, і аказваецца, што сакратар ячэйкі арыштаваны і спіскі падпольнай арганізацыі апынуліся ў руках польскай дэфензівы. У мяне падана так, што Нявідны накідваецца на сялян, членаў падпольнай ячэйкі, якія, можа быць, яшчэ недастаткова арганічна ўвайшлі ў падпольную арганізацыю. Па правільнаму і па закону логікі Нявідны не можа на іх рабіць ніякіх усчасцяў, як гэта ў мяне».

Трэба дадаць, што ўсюдысны Конік шмат дзе выступаў з прамовамі, напісаў нямала артыкулаў пра паляпшэнне якасці прадукцыі і аховы здароўя як найважнейшыя паказчыкі культуры грамадства. Але больш за ўсё — аб працы пісьменнікаў і рабселькараў, пра развіццё друку і маладой беларускай кінематаграфіі.

### У АДНЫМ ВАГОНЕ

15 жніўня ў адным вагоне дэлегаты выехалі ў Маскву на Першы ўсесаюзны з'езд пісьменнікаў. Быў сярод іх рускі пісьменнік, трыццацігадовы афіцэр Аляксандр Крапачоў, які служыў у Гомелі. Знаны камісар славутай Чангарскай кавалерыйскай дывізіі, герой грамадзянскай вайны (узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга), быў аўтарам таленавітых апавяданняў па слядах баявых падзей.

Пазнаёмімся і з трэцяй «незнаёмкай», біяграфія якой таксама вельмі цікавая. Колас, Купала ды іх паплечнікі добра ведалі Гэлену Раманоўскую, адзіную жанчыну з усіх дэлегатаў. Яна нарадзілася ў Мінску ў 1908 годзе ў сям'і польскага чыгуначніка. Працавала настаўніцай у польскіх школах Дзяржынска, потым у Мінску ў беларускай школе. Пісала вершы на польскай мове. Талент быў прызнаны, і яе прынялі членам польскай секцыі Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Раманоўская скончыла Беларускі вышэйшы педінстытут, была аўтарам шматлікіх вершаў, апавяданняў, дзвюх аповесцей. Спадарожнікі, з якімі яна ехала ў Маскву, ведалі Гэлену Раманоўскую як супрацоўніцу Беларускага радыё, перакладчыцу з беларускай мовы на польскую. Платон Галавач глядзеў на яе з удзячнасцю: яна перакладала яго апавяданні, знаёміла польскага чытача з яго мастацкімі творамі.

У другую групу дэлегатаў з дарадчым голасам, у якой былі Змітрок Бядуля, Віталь Вольскі, Эдуард Самуйлёнак, Мікола Хведаровіч ды іншыя, патрапіў Фадзей Браўковіч, пра якога наогул няма друкаваных звестак — але багата архіўных матэтыялаў. Ён не пісьменнік, а дзяржаўны дзеяч, член ЦВК БССР.

Ф. Браўковіч нарадзіўся ў 1894 годзе ў вёсцы Слабодка былога Аршанскага павета. Яго маці — бедная сялянка, бацька — рабочы Копыскага кафлянага завода. Скончыў Аршанскае гарадское вучылішча і працаваў разам з бацькам на заводзе. У 1915 годзе Фадзея прызвалі радавым у царскую армію. Потым ён быў прызначаны малодшым фельчарам Валынскага палка. Пабачыўшы шмат людской крыві і гора, вярнуўся ў Копысь, дзе жылі яго бацькі. З мая 1918 года — член прэзідыума Копыскага валвыканкама, сакратар Магілёўскага губваенкамата. Рамантыка будаўніцтва новага жыцця захапіла хлопца, ён хутка праявіў здольнасці арганізатара і кіраўніка. Плённа працаваў сакратаром райкама партыі на Гомельшчыне, і ў пачатку 1925 годзе яго прызначылі намеснікам, а потым наркамам фінансаў БССР. У 1934 годзе ён займаў пасаду дырэктара Белдзяржвыдавецтва і быў уключаны ў склад дэлегацыі на з'езд у Маскву.

### ЛІТАРАТУРЫ — АБ'ЯДНАЦЬ!

17 жніўня 1934 года ў Калоннай зале Дома Саюзаў на першым пасяджэнні Максім Горкі «с гордостью и радостью» адкрыў першы з'езд пісьменнікаў СССР. Пісьменнік прамаўляў, што Саюз творцаў патрэбен дзеля ўзаемадапамогі, вырашэння задач выхавання, збліжэння культур і народаў. Кандрат Крапіва ўспамінаў: «Аляксея Максімавіча Горкага я зблізу бачыў адзін раз на з'ездзе пісьменнікаў у 1934 годзе. Я сядзеў у зале і слухаў яго даклад, стараючыся не ўпусціць ні аднаго слова…»

Ад Беларусі ў прэзідыум з'езда былі выбраны М. Клімковіч і Я. Купала. З дакладам аб развіцці беларускай літаратуры выступіў Міхась Клімковіч. Яго радавала, што ў нас былі і ёсць выдатныя паэты, «буйнейшыя майстры мастацкага слова», Я. Купала і Я. Колас, што новая беларуская літаратура выхавала такіх маладых пісьменнікаў, як Андрэй Александровіч, Пятрусь Глебка, Міхась Чарот, Платон Галавач, Міхась Зарэцкі, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Ізя Харык, Кузьма Чорны і шмат іншых. Прамоўца падкрэсліваў, што значна пашыралася тэматыка нашай літаратуры, вырасла паэзія і драматургія, у апошнія гады з поспехам вырашаюцца праблемы стварэння гістарычнага рамана.

Выступіў і Якуб Колас. Ён казаў пра дарэвалюцыйную Беларусь, краіну, якая нават не ведала свайго імя, дзе праводзілася русіфікатарская царская палітыка, ды ўсё ж прабіўся голас беларускай паэзіі. Колас радаваўся прыходу новага ў грамадстве, з'яўленню творчых сіл, якія ўносяць у беларускую літаратуру свежы струмень, новыя тэмы і формы. Ён назваў цэлую плеяду маладых паэтаў і празаікаў, якія шукаюць адмысловыя шляхі ў творчасці, знаходзяць новыя этычныя праблемы, умацоўваюць сувязь са старымі літаратарамі. Не абмінуў пісьменнік і істотны на той час аспект: "Я павінен асоба падкрэсліць, якое вялізарнае значэнне мае для нас, беларускіх пісьменнікаў, літаратурная мова і мова наогул. Бо беларуская літаратура маладая, і мастацкая мова яе яшчэ недастаткова развіта, а найбагацейшы народны фальклор нават і ў малой ступені не сабраны і не выкарыстаны нашымі пісьменнікамі».

### ЯШЧЭ ДВА БЕЛАРУСЫ

На Першым з'ездзе прысутнічалі яшчэ два выхадцы з Беларусі, якія не былі дэлегатамі. Іх запрасілі на з'езд выступіць перад пісьменнікамі з дакладамі. Уявіце, як усхваляваліся дэлегаты, калі слова далі Ота Шміту, які нядаўна вярнуўся з Арктыкі! Непаўторна гучаў голас жывой легенды: «Знаходзячыся на «Челюскине» і затым на ільдзіне, дзе я сілай лёсу меў дастаткова часу, каб падумаць на розныя тэмы…» Ён гаварыў пра моц кніг у такіх нялёгкіх абставінах («накідваліся на літаратуру яшчэ больш, чым у сябе дома»), пра тое, якую ролю адыгралі томік А. Пушкіна і раман М. Шолахава «Ціхі Дон», якой любоўю былі акружаны пісьменнікі Ілья Сяльвінскі, Сяргей Сямёнаў і журналісты Громаў і Муханаў, што знаходзіліся на караблі.

Другі запрошаны — віцьблянін Міхаіл Лапіраў-Скобла, буйны спецыяліст у галіне электратэхнікі, прафесар і публіцыст, аўтар кнігі «Эдысон». У прамове на з'ездзе даследчык гаварыў пра роднасць навукі і літаратуры, іх агульную мэту — пазнаць свет і сучаснага чалавека. Прафесар падкрэсліў, што мастацкая кніга можа з'явіцца праваднікам найвялікшых навуковых ідэй, адкрыццяў і вынаходстваў.

Несумненна, першы з'езд пісьменнікаў СССР стаў важнай вяхой у мастацкай айчыннай культуры, меў вялікае значэнне ў развіцці беларускай літаратуры.

**Эдуард КАРНІЛОВІЧ**

# Ліхтары на мурашынай вуліцы

Апошнім часам усё больш расце цікавасць да non-fiction, дакументалістыкі самага рознага кшталту. Агульная тэндэнцыя адлюстраваная і ў ліпеньскім нумары часопіса «Полымя».

Узоры сапраўднай дакументалістыкі — узоры мастацтва. Таццяна Шамякіна, аўтар артыкула пра мемуары Івана Шамякіна, тлумачыць: мастацкасць мае месца «не ў сэнсе наяўнасці вымыслу, а ў самой манеры падачы матэрыялу, даходлівасці, яскравасці стылю, эмацыянальнасці, раскаванасці, адкрытасці тэксту». Гэтыя якасці шамякінскага «дакументальнага рамана» дэманструе артыкул «Мемуары ад душы». Варта падкрэсліць следам за Т. Шамякінай: класік «пакінуў найбольшую колькасць успамінаў пра калег» — у параўнанні з іншымі пісьменнікамі пасляваеннага часу — «і гэтым унёс неацэнны ўклад у гісторыю беларускай літаратуры». Няма сумневу, што класічныя акадэмічныя падручнікі па літаратуры ў літаральным сэнсе ажывуць, калі разам з імі чытаць «Начныя ўспаміны» Івана Шамякіна: нарысы пра Якуба Коласа, Міхася Лынькова, Петруся Броўку, Пятра Глебку, Івана Мележа, артыкул пра Максіма Танка і аповесць пра Андрэя Макаёнка, допісы розных жанраў пра пісьменніцкае жыццё і побыт (прэміі, з'езды, выдавецкія справы і г. д.). Яшчэ адна




каштоўнасць мемуараў: яны прасякнутыя верай у вартасць творчасці і значнасць асобы творцы. Шамякін працаваў, калі літаратура шмат што вырашала. «Дзякуй Лёсу і Богу» — узор света- і самаадчування, у тым ліку — і для наступных пакаленняў беларускіх пісьменнікаў.

Безумоўна, унікальны матэрыял успамінаў Міколы Лобана — яшчэ адзін узор нечаканай мастацкасці. Зрэшты, назва «Паэма майго маленства» падрыхтоўвае чытача да ўспрымання менавіта эстэтычнай з'явы. Падставы эстэтыкі і ўнікальнасці тут наступныя. Па-першае, аўтар — сведка ці не ўсіх значных падзей XX стагоддзя. Па-другое — кваліфікаваны лінгвіст геніяльна валодае мовай, у дадзеным выпадку мовай Случчыны — асновы беларускага літаратурнага слова. Да таго ж успаміны датычаць менавіта маленства, адсюль непасрэднасць і непрадузятасць адлюстраваных уражанняў. Працяг публікацыі прымушае з нецярплівасцю чакаць наступнага нумара.

Дзённікавыя запісы Віктара Шніпа «Заўтра была адліга» — яшчэ адно сведчанне разнастайнасці дакументальнай літаратуры і доказ яе патэнцыяльнай мастацкасці. Адрэзак жыцця паэта на працягу канца 2012-га — сярэдзіны 2013-га быў трагічны: ён страціў бацькоў. Апусцела родная хата, здавалася, апошняя сувязь з малой радзімай разарвана. Спустошанасць душы і паступовае вяртанне да адчування паўнаты жыцця — эмацыянальны стрыжань дзённікавых нататак за паўгода. Допісы В. Шніпа каштоўныя і як сведчанне эпохі, «бягучага моманту», і як «калялітаратурны» помнік, і як выяўленне багацця душэўнага стану паэта незалежна ад таго, чым гэты стан поўніцца. Толькі паэт у штодзённай мітусні здольны заўважыць яркія, сімвалічныя вобразы побытавай або прыроднай рэчаіснасці, параўнаўшы, прыкладам, суніцы каля мурашніка з ліхтарамі на мурашынай вуліцы.

Нібы малюнкі-ілюстрацыі да «асноўнага тэксту» — нешматлікія старонкі паэзіі і прозы. Заўважым мімаходзь, што ўвогуле неблагой — займальнай і чытэльнай — аповесці Ніны Рыбік «Скрыжаванні» не пашанцавала, бо яна патрапіла не ў свой, «прыземлена бытапісальны», але ў добра-такі «ўзнёслы» кантэкст агульнага зместу ліпеньскага «Полымя». У той час як да месца прыйшлася прытча Георгія Марчука «Божы дар», пададзеная як аснова свету падзея нараджэння ў жанчыны першанца. Каля, вакол і дзеля гэтай падзеі існуе чалавецтва, сімвалізаванае ў асобах найбольш выбітных постацей з усіх галін навукі, тэхналогіі, мастацтва. Прытча «Божы дар» можа лічыцца адным з найбольш лаканічных тэкстаў пра сэнс жыцця, лаканічных і пераканальных.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Рамантычныя лабірынты

Для тых, хто цікавіцца гісторыяй беларускай літаратуры, галоўнай публікацыяй сёмага нумара «Нёмана» будуць успаміны дачкі Андрэя Мрыя аб праведзеным на Беларусі дзяцінстве і першых пачутых ад сваякоў звестках пра бацьку. У 1947 — 1953 гг. Наталля Прушынская разам са старэйшым братам Юрам жыла ў вёсках Наваbеліца і Негаўка, дзе маці працавала настаўніцай. Толькі калі дзяўчынцы было трынаццаць, маці шчыра расказала ёй пра бацьку: гэта была тэма для «тайнай вячэры», як і духоўны сан многіх продкаў па матчынай лініі. Успаміны — сведчанне дзіўнага часу, у якім чалавеку іншай эпохі многае можа здацца супярэчлівым. Уступленне ў камсамол «пакінула яркае адчуванне акрыленасці, шчырасці, цеплыні», а ў папярэднім абзацы маці Н. Прушынскай распавядае пра тое, што «спробы абвергнуць хлусню бессэнсоўныя, нават небяспечныя; нельга нічога нікому распавядаць і пры кім-небудзь плакаць».

Проза нумара — гэта працяг рамана А. Ждана «Не загіне са мной» і шэраг апавяданняў, ідэі якіх правільныя і нескладаныя. Мужчынам не варта мець стасункі з дзвюма жанчынамі адразу, бо непрыемны збег абставін абавязкова здарыцца (В. Супрунчук, «Квітнеў белы-белы бэз»), а «самыя галоўныя праблемы вырашыць не столькі жорсткасць законаў, колькі паразуменне — чалавечае» (Л. Міхейкіна, «Рэанімацыя»). Мастацкі шлях, які прапануюць аўтары, каб нагадаць пра гэтыя рэчы, падаецца надта простым і прадказальным. «Messa» В. Яра мае даволі цікавы змест: рэдактар важнай рэспубліканскай газеты, «стары партыйны функцыянер», выпраўляецца ў камандзіроўку ў Італію. Яго здзіўляюць і бутэлька віна, паднесеная сцюардэсай, і імпульсіўнасць італьянцаў, і несапраўднасць вобразаў Напалеона ў свядомасці еўрапейцаў і жыхароў постсавецкага свету. Але самыя моцныя ўражанні пакідае набажэнства, якое адбываецца каля мора, на адкрытым паветры: пад урачыстыя словы малітваў Несцяровіч згадвае бабулю-каталічку і пачынае задаваць сабе «адвечныя» пытанні. На жаль, аўтар надта хутка пераключаецца з «зямнога» на «нябеснае», і ўзнёслаясць развязкі крыху не стасуецца са шматлікімі побытавымі падрабязнасцямі ў першай палове твора.

Між старонак, прысвечаных паэзіі, варта звярнуць увагу на рубрыку «З паэтычных сшыткаў»: два-тры добрыя творы лепш прэзентуюць творчасць аматараў вершаскладання, чым доўгая падборка з сярэдніх тэкстаў.

У артыкуле «Марта, маршал і жахлівая таямніца» Якаў Аляксейчык распавядае пра другога маршала Польшчы Эдварда Рыдз-Сміглага і яго жонку Марту. Побач з пераказам драматычных эпізодаў гісторыі Я. Аляксейчык аглядае сучасныя навуковыя выданні, прысвечаныя азначанаму перыяду, і каменціруе дыскусіі наконт перспектыў Польшчы «калі б у 1939 г. усё склалася інакш».

Пад адным загалоўкам, як і пад адной вокладкай, можна звярнуцца да самых розных рэчаў. Калі ж вы не ўяўляеце, як у адным тэксце можна расказаць пра «Лабірынты» В. Ластоўскага, літаратурную




моду 1970-х гадоў, даследаванне Арктыкі і празмернае захапленне постмадэрнізмам — чытайце эсэ Т. Шамякінай «Рамантыка савецкай навукі»!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**




# Ода Одры і Караткевіч

Назва агляду «Маладосці» № 7 ужо намякае, што нумар атрымаўся бадзёры і як ніколі адпаведны сваяму найменню. Пад адной вокладкай сабраны цікавыя інтэрв'ю, агністая паэзія і проза, вывераная і строгая (што мусіць гучаць як камплімент). Каб чытачы не стаміліся ад літаратурнай феерыі, яе разбавілі артыкуламі пра горад Ліду і Першую сусветную вайну, традыцыйнымі лірычнымі вершамі і не дужа традыцыйнай прозай. Што яшчэ цікава, у нумары ёсць месца «ўнутранаму рэху»: так, Віктар Лупасін выступае як паэт у «Маладосці» і як вядучы «Практыкуму» ў «Бярозцы»; Віктару Жыбулю прысвечана рэцэнзія Юліі Каралеўскай, і ён жа ў «Бярозцы» друкуе міні-лекцыю пра Уладзіміра Дубоўку і яго творчасць. Вы, магчыма, знойдзеце і яшчэ некалькі паралелей, таму чытайце ўважліва.

На трэцяй старонцы мы сустракаем Уладзіміра Караткевіча: «Маладосць» надрукавала легендарнае фота пісьменніка з яго апошняй вандроўкі па Прыпяці, тым самым даючы зразумець, што ў нумары вы знойдзеце яшчэ не адну згадку пра «наша ўсё», як піша часопіс. Сапраўды, Уладзіміру Караткевічу прысвечаны дзве апытанкі. Затым — артыкул Евы Лявонавай «Прысутнасць Гётэ ў творах Караткевіча», які перадусім адрасуецца да чытання тым, хто а) любіць Уладзіміра Сямёнавіча; б) любіць Гётэ; в) любіць вышукваць прыхаваныя сувязі ў літаратурных творах. Далей чытаем ліст Уладзіміра Караткевіча да жонкі Валянціны Браніславаўны; натуральна, раней ён нідзе не друкаваўся і выйдзе толькі ў Зборы твораў. Згадваецца пісьменнік ва ўспамінах Галіны Стральцовай; зрэшты, чытаць іх трэба не столькі дзеля таго, каб сустрэць любімае прозвішча: гэтыя ўспаміны — сапраўдная жывая вада, у тым сэнсе, што яны ператвараюць бронзавыя статуі ў людзей.

Вернемся да паэзіі, дзе нас чакаюць Алесь Круткін, Віктар Лупасін (хто знаёмы з творчасцю названых аўтараў, ужо мусіў бы выправіцца па часопіс), Юрка Буйнюк і Дзмітрый Пятровіч. Расклад сіл атрымаўся роўны: першы дуэт паддае літаратурнага жару, другі — сунімае яго ціхай самотнай лірыкай. Вершы Алеся Круткіна — суцэльная фантасмагорыя, сплаў старажытнай міфалогіі і сучаснага «трэшу», які не кожнаму прыйдзецца па густу — ды і па зубах ён не кожнаму. Калі вы прачытаеце гэтыя тэксты першы раз, то нічога не зразумееце. На другі, хутчэй за ўсё, таксама. Толькі разабраўшы радок за радком, павольна, вы здолееце разблытаць клубок фантазій і дакапацца хоць да якіх лагічных сувязей. З іншага боку, рабіць гэта неабавязкова.

Проза. Андрэй З-і ўспрыняў літаральна выраз «плынь свядомасці» і напісаў навелу-эпапею (магутны аксюмаран) ад імя ракі. Чытацкая ўвага перакідваецца ад адной карцінкі да іншай, ад слова да слова, аднак, ствараючы эфект гэтай самай «плыні», спадар Андрэй дзесьці губляе ўладу над словам. Апавяданне Аліны Агрэніч жывое і вясёлае, і героі яго — студэнты, якія жывуць у наш час і ў нашым горадзе (кажу пра Мінск), і адбываюцца з імі рэчы неверагодныя. Трапнымі назіраннямі за сучаснікамі дзеліцца Таццяна Пяшко («Гэтае спартыўнае жыццё», «Прыступка»). Яе героі — зусім не героі, і сітуацыі, у якіх яны аказваюцца, незвычайнымі не назавеш, і ў гэтым абаяльнасць аповедаў спадарыні Таццяны. Праўда, часам — у апісанні інтэр'еру ці асобы — не хапае больш дакладных азначэнняў.

Валерый Гапееў друкуе «Неадпраўленую аповесць» — сумесь фантастыкі (калі вы, канечне, не верыце ў перасяленне душ) і дэтэктыва, прычым дэтэктыва арыгінальнага, у беларускай літаратуры дасюль нябачанага: усё завязваецца вакол асобы Одры Хепбёрн, якую героі — ад ахвяр да журналіста, што спрабуе дакапацца да сутнасці справы, — абагаўляюць.

У рубрыцы «Пераклады» змешчана апавяданне «Урок» Сілы Наўман (перастварала Любоў Варашуха). Гэта змрочны твор, які наўрад ці спадабаецца кансерватыўным настаўнікам, бо ён — пра варожыя адносіны паміж настаўнікам і вучаніцай, але варта ўдакладніць: варожыя яны толькі з боку першага. Ён усведамляе, што не мае права, не павінен адчуваць гэтую звярыную нянавісць і, тым не менш, адчувае яе. Быць можа, гэта зваротны бок іншага пачуцця?.. А можа, усяго толькі сведчанне нікчэмнасці героя?..

Што да «Бярозкі», то ў яе для чытачоў ёсць навіна: са студзеня 2015 года часопіс пачне выходзіць у новым фармаце. «Светам кіруе той, хто чытае!» — нагадвае «Бярозка» і мае рацыю.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

**Упершыню ў летапісах Полацк згадваецца пад 862 годам. У сярэдзіне X стагоддзя ўзнікла Полацкае княства — першая дзяржава на тэрыторыі сённяшняй Беларусі. Адзін з найстаражытнейшых гарадоў Айчыны, які адыгрываў значную ролю ў гісторыі, мае ўнікальнае гістарычнае і культурнае мінулае. Але што зроблена для таго, каб і палачане, і госці маглі з задавальненнем акунуцца ў глыб стагоддзяў, пабачыць, як жылі нашы продкі? Адказ на гэтае ды іншыя пытанні прапануем пашукаць разам з тым, каму неабыякавы лёс горада.**

# Горад, згублены ў часе

## Ці зможам вярнуцца ў старажытны Полацк?



*Магчымы выгляд Верхняга замка пасля рэканструкцыі.*



*Фрагмент прапануемай рэканструкцыі з царквой Міхаіла Архангела.*

Полацку, які падарыў Беларусі шмат гістарычных імён у мастацтве, літаратуры, архітэктуры, не пашанцавала: праз яго пракаціліся ўсе войны, што адбываліся на нашай зямлі. Шмат было разбурана ў розныя часы і па розных прычынах. Але, нягледзячы на гэтыя драматычныя, а іншы раз і трагічныя абставіны, старажытны Полацк можна пры жаданні паказаць вельмі цікава. Тым больш што за апошнія трыццаць гадоў зроблена нямала для адраджэння яго гістарычнай велічы: адрэстаўраваны Сафія, корпус Полацкага ўніверсітэта і галерэя ў будынку езуіцкага калегіума, створаны шэраг музеяў і помнікаў, змянілася Ніжне-Пакроўская вуліца… Усё гэта ўдалося ажыццявіць перш за ўсё дзякуючы дырэктару Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка Таццяне Рудовай, былому старшыні Полацкага гарвыканкама Уладзіміру Тачылу, а таксама Эрнесту Бабенку і Дзмітрыю Лазоўскаму, якія ў розныя часы былі рэктарамі Полацкага ўніверсітэта, і шмат каму з нераўнадушных да сваёй мінуўшчыны людзей.

— Праўда, у асноўным узнавілі толькі той перыяд, калі Полацк уваходзіў у склад Расійскай імперыі, — заўважае карэнны палачанін, кандыдат эканамічных навук Уладзімір Цялежнікаў, які яшчэ ў дзяцінстве пасля кожнай паводкі збіраў на беразе Дзвіны манеты, гадзінамі блукаў з сябрамі па развалінах і падземных пераходах — словам, вырас на гісторыі роднага горада. — Я захапляюся помнікам, прысвечаным падзеям 1812 года. Радуе і тое, што мы не забыліся пра вялікіх людзей — узвялі помнікі расійскім генералам. Але Полацк больш цікавы IX — XVI стагоддзямі, а не XVIII — XIX, калі ён ужо стаў правінцыяльным цэнтрам. Яшчэ адзін момант — горад цяпер плоскі. Калі паглядзець на сярэднявечныя гравюры, то бачым, што амаль увесь Полацк быў каменным і гатычным. Тады архітэктары ўмела ўлічвалі асаблівасці рэльефу. Цяпер, пасля таго як вызваліліся карпусы бальнічнага комплексу на тэрыторыі Верхняга замка, прадставілася ўнікальная магчымасць зірнуць на гістарычную частку як адзінае цэлае. Відавочна і тое, што гораду неабходны музей Полацка, каб больш поўна паказаць усе гістарычныя перыяды, тым больш што ў запасніках музея-запаведніка захоўваецца шмат цікавых артэфактаў. На жаль, няма пакуль у Полацку і па-сапраўднаму яркага цэнтра.

Падчас апошняга наведвання горада Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам была пастаўлена задача «падняць з зямлі» гістарычную частку горада і паказаць яе на годным для краіны ўзроўні. Выйшаў і адпаведны Указ кіраўніка дзяржавы. У 2015 годзе заканчваецца тэрмін рэалізацыі зацверджаных на самым высокім узроўні мерапрыемстваў комплекснай праграмы развіцця Полацка. Але…

— Відавочна, што яна не будзе рэалізаваная, бо няма неабходнага фінансавання. Гораду і вобласці, якія адказваюць за рэалізацыю гэтага грандыёзнага праекта, сёння ён не па плячы, — зазначае Уладзімір Цялежнікаў. — Ды і ўзровень прапрацоўкі Праграмы ў цэлым выкананы не на належным узроўні. Цяпер вось гарадскія ўлады спрабуюць акультурыць тэрыторыю каля Спаса-Праабражэнскага манастыра XII стагоддзя.

Для фарміравання гістарычнага аблічча горада група палачан, сярод якіх мастакі, архітэктары і проста нераўнадушныя асобы, распрацавала на аснове гістарычных крыніц сваю ўласную канцэпцыю рэканструкцыі Верхняга замка і прылеглых да яго тэрыторый. Каб стварыць адзіны гістарычны, архітэктурны, паркавы і музейны ансамбль, яны прапануюць надаць гістарычную форму некалькім будынкам з адпаведным начыненнем, стварыць інфраструктуру для турыстаў, адкрыць і паказаць тое, што з'яўляецца гонарам нашай культуры і гісторыі.

— Пазнаёміўшыся са шматлікімі матэрыяламі па Полацку, выбралі аб'екты, якія не выклікаюць сумнення, і на іх аснове распрацавалі недарагую канцэпцыю рэканструкцыі Верхняга замка, — распавёў мой суразмоўца. — Як гэта ні дзіўна, але мясцовымі ўладамі не акрэслены пакуль гістарычныя зоны, дзе нельга ўзводзіць, прынамсі, катэджы. — Калісь уся набярэжная Ніжне-Пакроўскай была забудавана цэрквамі. Безумоўна, ператварэнне Полацка ў «Горад-музей» імгненна не адбудзецца. Значнага часу і высілкаў патрабуюць асэнсаванне, праектаванне, узгадненне і пошукі крыніц фінансавання. Але трэба ахапіць карціну ў цэлым, усвядомлена і планамерна рухацца ў гэтым кірунку. Такія аб'екты павінны знаходзіцца пад пільным кантролем Мінкультуры, а гістарычныя комплексы — мець рэспубліканскае значэнне і падначаленне. Праблема Полацка яшчэ і ў тым, што гэты гістарычны аб'ект рэспубліканскага і сусветнага значэння адначасова з'яўляецца раённым цэнтрам, а гісторыка-архітэктурны запаведнік мае статус абласнога падпарадкавання. У раёна і вобласці няма неабходных матэрыяльных ды інтэлектуальных рэсурсаў для падачы старажытнага Полацка і падтрымання ўзроўню, які б адпавядаў яму.

Энтузіясты, якія распрацавалі новую канцэпцыю, лічаць памылковым рашэнне мясцовых улад аб узвядзенні трэцяга моста, бо гэта аб'ект не першай неабходнасці. Тым больш што пры ўваходзе і выхадзе з яго адкрываецца не вельмі прывабная для вока карціна. Што гэта дае гораду? Пакуль нічога, а вось затраты мяркуюцца каласальныя. Гэтых грошай якраз хапіла б на рэстаўрацыю гістарычнай часткі. У 2010 годзе быў здадзены ў эксплуатацыю другі мост, які неабходна было ўзвесці, бо стары ўжо не вытрымліваў вялікай нагрузкі і пацiху разбураўся. Але з-за гэтага перамясціўся цэнтральны ўезд у Полацк і значна змянілася ўспрыманне яго архітэктурных помнікаў. Відавочна, сёння Полацк трэба прадстаўляць ужо ў раёне другога моста, з якога адкрываецца від на Верхні горад.

— Таму энтузіясты перш за ўсё распрацавалі канцэпцыю Верхняга замка, — тлумачыць Уладзімір Цялежнікаў. — Галоўнае, каб была сістэмнасць. І нельга абапіраецца толькі на XVII — XIX стагоддзі. Зазірнуўшы ў Полацкі краязнаўчы музей, мы пабачым толькі дзве дыярамы: на першай крыжакі спрабуюць узяць Полацкую крэпасць, на другой адлюстраваны падзеі вайны з Напалеонам. А дзе 500 год беларускай гісторыі? Выратоўвае толькі адмысловы будынак кірхі, унутры якой папрацаваў у свой час добры дызайнер.

Энтузіясты вызначалі аб'екты на тэрыторыі Верхняга замка, якія ёсць ці якія трэба ўзвесці нанава. Мы прапанавалі знесці забудову 1960 — 1970 гадоў, якая зусім не ўпрыгожвае горад. Праверыўшы неабходныя даследаванні, дакладна вызначылі, дзе знаходзілася Полацкая крэпасць, пра якую сведчыць гравюра 1579 года «Узяцце Полацка войскамі Стэфана Баторыя». Раней крэпасць нават не ўзгадвалі. Цяпер гэтая «пляма» мёртвая, пустая, з будынкамі, якія валяцца. Нельга паказваць горад толькі драўляным, бо, як ужо адзначалася, на гравюрах ён амаль увесь каменны. Калі б яром X стагоддзе — гэта апраўдана, калі ж XVI — незразумела. Сёння назіраем наступнае: ніхто не спрабуе прывязацца да часу, таму розныя эпохі змешваюцца ў адно. Гэта недапушчальна.

— Мы прапанавалі ўзвесці невялікую каменную царкву Міхаіла Архангела, якая будавалася паралельна з Сафійскім саборам, — працягвае Уладзімір Іванавіч. — А яшчэ ўстанавіць помнік Сафіі, якой яна была ў XII стагоддзі. З гэтым досведам пазнаёміліся ў Польшчы і Германіі. Калі немагчыма ўзнавіць будынак, то самае большае, што могуць зрабіць нашчадкі, — паставіць яму помнік. Нават прыдумалі, якім чынам экскурсавод будзе весці расповед, каб не змешваліся эпохі.

Распрацоўшчыкі канцэпцыі, дарэчы, падлічылі: калі Полацк за год наведаюць 100 тысяч турыстаў, то ў бюджэт краіны паступіць больш як два мільёны грошай у доларавым эквіваленце. Такім чынам, гэта вельмі выгадны для дзяржавы і самога горада бізнес-праект. Таму працы па рэканструкцыі гістарычнай часткі і стварэнні сучаснай інфраструктуры трэба весці разам з разгортваннем інфармацыйнай гісторыка-турыстычнай рэкламы Полацка і яго архітэктурна-гістарычнага музея-запаведніка. Тут яшчэ шмат недапрацовак. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова азнаёміцца са сціплай інфармацыяй пра горад, якая падаецца на сайце райвыканкама.

У тых, хто прапануе паказаць Полацк як унікальны турыстычны аб'ект, яшчэ шмат цікавых прапаноў. Напрыклад, чаму б пры ўездзе ў Полацк на цэнтральным кальцы не паставіць знак, які б адлюстроўваў перыяд найбольшага росквіту Полацкага княства (XI стагоддзе) з пералікам дзясятка гарадоў, што ўваходзілі ў яго склад?

Асобнай увагі заслугоўваюць векавыя традыцыі Полацкага самакіравання. Чаму не паставіць на цэнтральнай плошчы Полацкую Ратушу?

Адкрыць від на Сафію з Ніжне-Пакроўскай вуліцы, вызваліўшы і належным чынам афарміўшы пляцоўку перад кірхай, дзе цяпер працуе Полацкі краязнаўчы музей. Зрабіць больш прывабным агляд гары Верхняга замка. Для гэтага неабходна прыбраць агароды і аднавіць участак старажытнай дарогі да замчышча з боку Калегіума, у якім размешчаны тутэйшы ўніверсітэт, афарміць набярэжную з помнікамі Рагвалоду, Рагнедзе і Ізяславу — заснавальнікам полацкай дынастыі.

**Раіса МАРЧУК**

# На планеце Мінуўшчына

**Сёлета ў нашай краіне было зарэгістравана новае выдавецтва. Яго ўладальнік і заснавальнік — кандыдат гістарычных навук, вядомы даследчык Андрэй Янушкевіч. Менавіта на падрыхтоўцы гістарычных беларускамоўных выданняў, адрасаваных шырокаму колу чытачоў, будзе зроблены акцэнт у працы ўстановы. Кнігі з пазнакай «Янушкевіч» ужо ў верасні з'явяцца на паліцах кнігарняў. Пра тое, як наладжана праца ўстановы і якіх навінак можна чакаць чытачам, карэспандэнту «Кніжнага свету» распавядае выдавец.**



**— Спадар Андрэй, як узнікла ідэя заснаваць выдавецтва і чаму менавіта гістарычная тэматыка была абраная ў якасці асноўнага кірунку?**

— Раней, працуючы ў Інстытуце правазнаўства, Мірскім замку, я курыраваў выданне кніг. У прынцыпе, уся падрыхтоўка — стварэнне макета, складанне зместу, афармленне вокладкі — была пад маім кантролем. Па-другое, у мяне з'явілася ідэя выдаваць гістарычныя кнігі, якія чыталіся б шырокай публікай. У 2007 годзе я апублікаваў сваю манаграфію, прысвечаную Лівонскай вайне, а не так даўно яна была перавыдадзена на рускай мове. Дык вось гэтае навуковае даследаванне тыражом 300 асобнікаў разляцелася літаральна за паўгода. Я сам адчуў, што гісторыя карыстаецца вялікім попытам. Людзей цікавіць усё, што звязана з узбраеннем, войнамі, знакавымі гістарычнымі падзеямі. Таму вырашыў скіраваць сваю працу менавіта на наближэнне звестак пра мінулае да шырокай грамадскасці.

Мы маем на мэце зрабіць акцэнт не на чыста навуковых выданнях, але на якаснай белетрыстыцы. А для гэтага кнігі павінны пісацца прафесіяналамі сваёй справы: гісторыкамі, музейнымі супрацоўнікамі, краязнаўцамі. Факты мусяць выкладацца ў лёгкай форме, даступнай для чытача. Яшчэ ёсць ідэя разварушыць нашых гісторыкаў, каб яны пачалі пісаць не толькі для сябе, а для людзей, каб яны зразумелі, што кнігі — гэта не проста добрасумленны падбор фактаў і высноў, а твор, які павінен чытацца як мага больш шырокім колам.

**— У выдавецтве «Янушкевіч» ужо рыхтуецца некалькі праектаў, таму можна меркаваць, што ваша ідэя была сустрэтая аўтарамі з прыхільнасцю. Якія кнігі мы пабачым у хуткім часе?**

— Першым выданнем стане пераклад з польскай мовы даследавання Пятра Дружджа «Бітва пад Оршай 1514 года». Кніга прысвечана значнай гістарычнай падзеі, 500-гадовы юбілей якой мы будзем адзначаць праз два тыдні. Гэта папулярная праца, дзе ў даступнай, лёгкай форме апісваюцца падзеі вакол бітвы, сама бітва пад Оршай. Крыху пазней выйдзе кніга Анатоля Трафімчыка «1939 год і Беларусь: забытая вайна». Галоўная задача гэтага выдання — паказаць, што Беларусь стала прастораю для сутыкнення Германіі і СССР ужо ў 1939 годзе. У верасні мусіць пабачыць свет і даследаванне Аляксея Шаланды, прысвечанае шляхецкай геральдыцы Беларусі. Зацікаўленасць гербамі, пячаткамі ў грамадстве вельмі высокая, але прыстойнага навукова-папулярнага выдання на гэтую тэматыку я пакуль не бачыў.

**— Як будзе праходзіць далейшы падбор аўтараў?**

— Канечне, спрыяе той факт, што я сам гісторык, ведаю досыць шмат спецыялістаў у гэтай галіне і праз асабісты кантакт магу прапанаваць ідэю напісаць кнігу. Спадзяюся, што аўтары будуць знаходзіцца з намі. Нягледзячы на тое, ... Спадзяюся, што аўтары будуць знаходзіцца з дапамогай рэкламы, а таксама праз тыя кнігі, якія выйдуць з друку. Гатовыя выданні падштурхнуць да супрацоўніцтва з намі. Мяркуем прыцягнуць і даследчыкаў з рэгіёнаў. У нашых планах — падрыхтоўка кнігі краязнаўцы з Клецка Андрэя Блінца.

**— Ці кожны навуковец-гісторык здольны цікава акрэсліць прадмет свайго даследавання?**

— Калі разгледзець адметнасці гуманітарных навук, да прыкладу гісторыі, і адказаць на пытанне «Які прадукт ствараюць даследчыкі?», мы прыйдзем да высновы, што так ці інакш усе навукоўцы павінны працаваць на навуку, асвету грамадства, прадстаўляючы манаграфіі, робячы публікацыі. Гэта нават патрабуецца пры абароне дысертацыі. Але для каго пішуцца такія артыкулы і кнігі? Лічу, што гісторык мусіць пісаць настолькі цікава і актуальна, каб яго даследаванні хацелася чытаць многім. На гэтай схеме працуе ўвесь свет. Навукоўцы пішуць кнігі, нават паралельна рыхтуюць навуковую працу і папулярнае выданне. У любым выпадку гісторык у нейкі момант выступае ў якасці пісьменніка, ды і работы пішуцца менавіта пад уплывам натхнення. Таму мне падаецца, што праца гісторыка блізкая да працы пісьменніка.

**— У нашай краіне ўжо склалася кола выдавецтваў, якія працуюць у гэтым жа кірунку. Да прыкладу, «Беларусь», «Харвест», Выдавецкі дом «Звязда», «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»… Яны маюць і сваю акрэсленую тэматыку, якая крыху супадае з вашай, і кола аўтараў, якое таксама можа перакрыжоўвацца з колам вашых аўтараў. Не баіцеся канкурэнцыі на рынку?**

— Трэба шукаць новае. Гэта могуць быць перакладчыцкія праекты, выданне рукапісаў аўтараў-адмыслоўцаў, якія ўжо маюць вопыт напісання папулярных кніг. Але сярод гісторыкаў ёсць аўтары адно даследаванняў, якія, можа, і пісалі навуковыя кнігі, але на белетрызаваным грунце сябе не спрабавалі. У бізнесе пануе выслоўе «гэтага пірага хопіць на ўсіх». З пункту гледжання прадстаўлення мінуўшчыны ў Беларусі настолькі ненапоўнены тэматычна і якасна кніжны рынак, што наша выдавецтва мае шырокае поле для працы. Гісторыя — планета, якая ўвесь час адкрываецца па-новаму: знаходзяцца новыя дакументы, выкарыстоўваюцца новыя метады даследавання. Гэта бясконцая прастора, якую можна вывучаць. Больш за тое, бачым, што ў грамадстве існуе прага да гістарычных ведаў, і мы можам яе спатоліць. Важна, каб была цікавая ідэя для кнігі і вартае яе ўвасабленне.

**— А як наконт канкурэнцыі з электроннымі выданнямі? Выдаўцы ўсё часцей скардзяцца, што менавіта гэты сегмент атрымлівае ўсё большую вагу на рынку.**

— Мы не маем на мэце выдаваць кнігу дзеля кнігі — не ў гэтым сэнс існавання выдавецтва. Важныя тэма, змест кнігі, але ж выданне павінна выглядаць прыгожа, эстэтычна, яно мусіць быць унікальным з дызайнерскага пункту гледжання, каб кнігу прыемна было ўзяць у рукі і чытаць. Павінна быць гарманічнасць у спалучэнні шрыфтоў, падборы фотаздымкаў, размяшчэнні ілюстрацый. Калі папяровае выданне не будзе адпавядаць гэтым крытэрыям, канкурэнцыю з электронным яно не вытрымае.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Прэзентацыя*

# Курганы распавядаюць

Выдавецтва «Галіяфы» рыхтуе да выхаду калектыўнае даследаванне Мікалая Плавінскага, Людмілы Дучыц, Аляксандра Плавінскага і Вадзіма Шадыры «Курганныя могільнікі захаду Браслаўскага Паазер'я (матэрыялы раскопак 1978 — 2010 гадоў)». Гэтая праца мае на мэце максімальна поўную публікацыю і аналіз матэрыялаў раскопак, якія праводзіліся яе аўтарамі на курганных могільніках заходняй часткі Браслаўскага Паазер'я.

На працягу некалькіх апошніх дзесяцігоддзяў Браслаўскае Паазер'е стала вылучаецца беларускімі археолагамі — даследчыкамі помнікаў жалезнага веку і эпохі сярэднявечча — як асобны гісторыка-культурны рэгіён. Ён уключае Браслаўскі, Міёрскі і частку Шаркаўшчынскага раёнаў Віцебскай вобласці. Нягледзячы на тое, што гэты рэгіён з'яўляецца, бадай, адным з найлепш даследаваных у археалагічным плане рэгіёнаў Беларускага Падзвіння, спецыялісты-археолагі адзначаюць істотны недахоп публікацый крыніцазнаўчага характару. Часта здараецца сітуацыя, што з-за абмежаванасці аб'ёму ў сваіх




артыкулах даследчыкі вымушаны выкладаць толькі высновы, падмацоўваючы іх найбольш важнымі фактамі. Таму аўтары новага выдання ўпэўнены: паўнавартасная публікацыя матэрыялаў раскопак на сённяшнім этапе развіцця беларускай археалогіі — найважнейшая мэта.

— Даследаванні такога кшталту маюць абмежаванае кола чытачоў. Гэта спецыялізаваная літаратура, — разважае адзін з аўтараў кнігі, археолаг, кандыдат гістарычных навук Мікалай Плавінскі. — Але максімальна поўнае выданне матэрыялаў любых раскопак надзвычай важнае. На жаль, дакументацыя, знойдзеныя прадметы з цягам часу старэюць. Сыходзяць і людзі, якія праводзілі раскопкі і валодаюць поўнай інфармацыяй. Больш за тое, любы археалагічны помнік унікальны — яго можна даследаваць толькі адзін раз, бо ў адрозненне ад усіх іншых навук археалогія разбурае прадмет даследавання, адзін і той жа культурны слой другі раз даследаваць нельга.

На старонках кнігі можна даведацца і пра вынікі надзвычай цікавых раскопак. Гэта, у прыватнасці, матэрыялы даследавання курганнага могільніка Пагошча Браслаўскага раёна. Яго раскопкі праводзіліся пад кіраўніцтвам Мікалая Плавінскага з 2005 па 2009 год.

— Гэты невялічкі комплекс, які ўключае ўсяго 15 курганоў, аказаўся вельмі цікавым, — распавядае даследчык. — Могільнік функцыянаваў нядоўга, магчыма, цягам 30 ці 35 гадоў, і ў ім хавалі хутчэй за ўсё прадстаўнікоў полацкай княжацкай дружыны. Мы выявілі вельмі багатыя пахаванні са шматлікімі прадметамі ўзбраення і ўпрыгажэннямі. Існуе здагадка, што ў адным кургане быў пахаваны зборшчык падаткаў ці гандляр, бо побач з астанкамі былі знойдзены вагі для ўзважвання срэбра, некалькі манет, набор гірак.

Думаецца, аўтары даследавання «Курганныя могільнікі захаду Браслаўскага Паазер'я» маюць усе падставы спадзявацца, што кніга зацікавіць калег, якія займаюцца вывучэннем пытанняў сярэднявечнай археалогіі Усходняй Еўропы. Выданне можа стаць своеасаблівым штуршком і прыкладам для публікацыі матэрыялаў іншых археалагічных даследаванняў, што ў розныя гады праводзіліся айчыннымі навукоўцамі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Зямля пад белымі крыламі

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Слова краязнаўцы*



**Галіна Пярова, настаўніца пачатковых класаў па прафесіі і краязнаўца паводле хобі, распавядае пра тое, як педагогі і вучні Рагозніцкай сярэдняй школы Мастоўскага раёна захоўваюць гісторыю роднай вёскі і свайго рэгіёна:**

— Цікавасць да краязнаўства ўзнікла ў мяне яшчэ падчас навучання ў Роска-Сялецкай школе імя С. М. Міта Аршанскага раёна. Збірала цікавыя рэчы, удзельнічала ў афармленні стэндаў, праводзіла экскурсіі. На жаль, пасля смерці дырэктара нашу ўстанову закрылі, перастаў дзейнічаць і музей. Праз некаторы час, калі сама стала працаваць настаўнікам, пашчасціла патрапіць у калектыў, дзе ўжо ішла работа па зборы матэрыялаў для будучага музея.

У Рагозніцкай сярэдняй школе з 2005 года працуе музейны пакой «Спадчына». Спачатку ў ім было няшмат экспанатаў. Аднак актыўныя пошукі навучэнцаў і настаўнікаў далі плён. Дзякуючы педагогам Валянціне Лобач, Ірыне Маліноўскай, Анатолю Русаку былі закладзены асновы экспазіцыі. Вялікі ўнёсак у збор матэрыялаў і афармленне стэндаў зрабілі настаўнікі Марына Бяроза, Алена Заяц, Марыя Сасноўская, Тамара Кавалевіч, Антаніна Лудзіч, Сяргей Пяроў. Асабіста я займалася распрацоўкай канцэпцыі і кірункаў дзейнасці музейнага пакоя. Дапамагалі жыхары вёскі, вучні.

Кожная рэч патрабавала дасканалага аналізу і вывучэння. Так, напрыклад, жыхар нашай вёскі Сяргей Пяроў выпадкова знайшоў у агародзе маленькую сякеру. Толькі пасля адпаведнага даследавання спецыялісты ўстанавілі, што гэтая знаходка адносіцца прыкладна да II стагоддзя да нашай эры.

Правялі карпатлівую працу па сістэматызацыі экспанатаў. У выніку сёння ў музейным пакоі існуе чатыры раздзелы. Адзін з іх прысвечаны гісторыі стварэння і развіцця Пескаўскага сельскага савета, другі ўтрымлівае звесткі пра Вялікую Айчынную вайну, вайну ў Афганістане і Чарнобыльскую трагедыю. Наступны раздзел — «Летапіс школы» — гэта экскурс у гістарычнае мінулае ўстановы і сённяшні яе дзень. У апошнім раздзеле — «Этнаграфія Мастоўшчыны» — прадстаўлены прадметы побыту продкаў.

Каб узмацніць выхаваўчы ўплыў музейнага пакоя на вучняў, мы стварылі музейны савет. У яго склад увайшлі навучэнцы рознага ўзросту. Хтосьці праводзіць экскурсіі, нехта сочыць за чысцінёй на музейных палічках. Некаторыя вучні пра нашы музейныя экспанаты пішуць працы для навукова-практычных канферэнцый.

«Спадчына» набыла папулярнасць і сярод навучэнцаў з іншых школ. Любяць сюды прыйсці і настаўнікі. Дзверы гэтага пакоя адчынены для ўсіх. Мы праводзім шмат цікавых мерапрыемстваў. А архіў «Спадчыны» папаўняецца ўвесь час.

*Музейны ўнікат*

# Адчуць сябе прынцэсай



Калекцыя з вячэрняга туалету модніц.

**Убранні, якія насілі жыхары гарадоў Беларусі ў XIX — на пачатку XX стагоддзя, можна ўбачыць на выстаўцы «Куфэрак: стагоддзе прыгажосці». Экспазіцыя размясцілася ў флігелі Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу, што ў Мінску.**



Фота Кацярыны Раханскай

Адзін з касцюмаў экспазіцыі прадстаўляе яго аўтар Святлана Іванова-Кліманская.

Не адвесці вачэй ад вячэрніх і будзённых, бальных і прагулачных строяў. Калекцыю рэканструяваных рэчаў з вячэрняга гардэроба прыгажунь дапаўняюць веeры, карункі, пальчаткі, брошкі… Праект «Куфэрак» арганізаваны намаганнямі энтузіястаў-аматараў, захопленых гісторыяй моды, сумесна са студыяй гістарычнага танца «Версаль». А музей гісторыі горада Мінска прадаставіў памяшканне для паказу калекцыі.

— Беларускі касцюм усім вядомы як вышытая кашуля, спадніца, гарсэт, панёва — гэта нацыянальны народны касцюм жыхароў сельскай мясцовасці, — распавяла кіраўнік выстаўкі Святлана Іванова-Кліманская. — А як апраналіся дамы ў гарадах? Мы акцэнтавалі ўвагу менавіта на свецкім касцюме.

Выраблены з натуральных тканін і з улікам крою тых часоў мадэлі адлюстроўваюць розныя стылі: ампір (1800 — 1820), «бідэрмеер» (1830-я гады), «другое ракако» (сярэдзіна 1850-х — канец 1860-х).

Эскізы ўзнаўляліся па творах мастацтва, модных часопісах, партрэтах XIX ст. Цэнтральную частку экспазіцыі складаюць мадэлі Кацярыны Гурскай, Святланы Івановай-Кліманскай, Яўгеніі Янкелевіч, Веранікі Ільяш. Таксама прадстаўлены работы Антона Прыймака, Таццяны Кот, Вольгі Дашкевіч.

Строі ўражваюць вытанчанасцю і элегантнасцю. Несумненная дамінанта — бальныя мадэлі з крыналінам. Плаўныя лініі формаў быццам перацякаюць у танец, акунаюць у свет мінулага і дазваляюць адчуць сябе пекнай паненкай. Усё дыхае даўнінай і ахутана таямніцай.

Паводле Святланы Івановай-Кліманскай, усе касцюмы «жывыя» — іх пастаянна выкарыстоўваюць падчас літаратурных і музыкальных вечарын, на балях, выязных мерапрыемствах, напрыклад «Ватэрлоа». Да таго ж праводзяцца тэматычныя пікнікі. Некаторыя строі шыліся спецыяльна для выстаўкі, гэта так званыя рэканструкцыі living history, калі ствараецца поўны касцюмны камплект для канкрэтнага мерапрыемства.

Між тым, акрамя рэканструкцый, у калекцыі ёсць і арыгінальныя мадэлі. Сярод іх — жаночы жалобны касцюм пачатку XX ст. (прыблізна 1900 г.) і візітны жакет з кропачкамі з зялёнага шоўку. Дарэчы, жакет выглядае такім маленькім, што, здаецца, апрануць яго можна толькі на падлетка. Але справа ў тым, што сярэдні рост жанчыны ў XIX ст. быў 155 сантыметраў, а памер таліі ў тыя часы — 50 сантыметраў.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічаў гісторык моды, вядучы праграмы «Модны прысуд» Аляксандр Васільеў, які павіншаваў удзельнікаў з добрым пачынам, высока ацаніў работы і пажадаў праекту развіцця. Урачыстасці дадавалі танцавальныя майстар-класы, зладжаныя студыяй «Версаль». Рамантычны настрой стваралі і тэматычныя фотасесіі.

Арганізатарамі «Куфэрку» аб'яўлены конкурс! Паважаныя модніцы, вам прапануецца стварыць непаўторны вобраз у стылі XIX ст. з дапамогай аднаго з касцюмаў, якія прадстаўлены ў фотакутку выстаўкі на другім паверсе. Не прапусціце магчымасці прымераць эксклюзіўныя сукенкі! Аўтар лепшага вобраза атрымае прыз — адмысловае ўпрыгожванне ручной работы, падрыхтаванае спецыяльна для выстаўкі. Адчуйце сябе прынцэсай!

**Наталля СВЯТЛОВА**

*Фоташтрых*



Фота Таццяны Сівец

*Касцёл святой Веранікі і кляштарны комплекс бернардзінцаў 1726 года ў вёсцы Селішча Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Калісь велічны, прыгожы і багаты, сёння гэты аб'ект гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі стаіць занядбаны, з напаўразбуранымі вежамі, скрозь парослы бярозкамі ды рабінамі, глядзіць у неба вялізнай дзіркай у купале, шчарбінамі ад куляў нагадвае пра былую вайну і чакае вернікаў ды рэстаўратараў. Ці дачакаецца?*

# Камертон і ліра

Больш як два дзесяцігоддзі пры гімназіі № 10 г. Маладзечна працуе клуб бальных танцаў «Грацыя». Кіруе ім педагог Дзмітрый Хаўронін, які выхоўвае ў навучэнцаў унутраную культуру, вучыць разумець і цаніць прыгожае, а таксама ўмее ўважліва слухаць, тонка адчуваць і бачыць.

Клуб бальных танцаў «Грацыя» — пастаянны ўдзельнік канцэртных і святочных праграм, мерапрыемстваў гарадскога, раённага, абласнога і рэспубліканскага ўзроўняў. Юныя артысты ведаюць: званне «ўзорны» абавязвае заўсёды быць у форме, шліфаваць выканальніцкае майстэрства.

Танец — не такая лёгкая рэч, як можа падацца некаму. Трэба каб гарманічна працавалі і цела, і душа. Гэты від мастацтва развівае ўвагу, дысцыплінаванасць, волю, памяць, уменне дабівацца вынікаў.

Дзмітрый Хаўронін скончыў ваеннае вучылішча, затым — БДУ (спецыяльнасць «Фізіка і інфарматыка»). Арміі прысвяціў шэсць гадоў. Але бальны танец стаў для яго не хобі, а жыццём. І цяпер ён з асалодай працуе ў сценах роднай гімназіі, падбіраючы для ўдзельнікаў клуба разнапланавы па змесце і характары рэпертуар.

Пачынаючы з 1992 года заняткі клуба наведала больш як тысяча дзяцей. Тут пастаўлена мноства еўрапейскіх і лацінаамерыканскіх танцаў. Узрост удзельнікаў — ад пяці да шаснаццаці гадоў, ёсць групы і для дарослых.

У розныя гады калектыў браў удзел у рэспубліканскім фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне, рэспубліканскім тэатральным фестывалі «Маладзечанская сакавіца», шоу-праграмах «Зоркі Маладзечна», «Свята дзяцінства», «Муза юнацтва». Па выніках занальнага агляду мастацкай самадзейнасці ўзнагароджваўся дыпломамі ўпраўлення адукацыі Мінскага аблвыканкама за высокі мастацкі ўзровень і выканальніцкае майстэрства. Колькі дыпломаў, ганаровых грамат, падзячных лістоў — цяжка пералічыць. У актыве клуба ёсць і дабрачынныя канцэрты. Геаграфія гастрольнай дзейнасці «Грацыі» таксама шырокая: Санкт-Пецярбург, Мінск, Вільнюс, Брэст, Баранавічы, Смаргонь, Вілейка, Кіеў, Палтава, Чарнігаў.

**Аляксандр ХАЗЯНІН**

# Сястра Надзея

**Летась споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння Надзеі Куляшовай, малодшай сястры народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. Надзея Аляксандраўна — заслужаны настаўнік, выдатнік народнай асветы БССР. Сваімі ўспамінамі дзеліцца Святлана СТАКАС, выдатнік народнай асветы БССР, лаўрэат прэміі імя Н. К. Крупскай:**



Надзея Куляшова.

— Лёс даў мне вялікае шчасце — шмат гадоў працаваць пад кіраўніцтвам Надзеі Аляксандраўны. Яна засталася ў маёй памяці як выдатны настаўнік і метадыст рускай мовы і літаратуры. Нягледзячы на дваццацігадовую розніцу ва ўзросце, гэтая жанчына стала для мяне сапраўдным сябрам.

Надзея Аляксандраўна нарадзілася ў 1918 годзе ў мястэчку Саматэвічы (цяпер Касцюковіцкі раён) Магілёўскай губерні ў сям'і вясковых настаўнікаў. Бацька, Аляксандр Мікалаевіч, выкладаў біялогію і нямецкую мову ў горадзе Хоцімску і быў вядомы на ўсю акругу таленавіты садоўнік, пчаляр і спявак. Маці, Кацярына Фамінічна, закончыла двухгадовы Настаўніцкі інстытут у Гомелі. Амаль паўстагоддзя знаёміла дзяцей з асновамі фізікі і матэматыкі. Абодва былі носьбітамі «трывалых традыцый беларускай сям'і», якія пераняла і іх дачка.

Калі састарэлай маці спатрэбілася дапамога, жанчына, не задумваючыся, пакінула Мінск і перабралася ў Хоцімск, з галавою акунулася ў вясковы побыт. Гэтае новае жыццё Надзея Куляшова палюбіла ўсёй душой. І заўсёды з захапленнем і ўзнёсла распавядала пра тое, якія прыгожыя там луг ды рэчка, як лёгка дыхаецца раніцай у садзе…

Надзея Аляксандраўна вельмі ганарылася, што яе родны брат — вядомы паэт, была ўдзячна яму за дапамогу ў жыцці, але ніколі не выхвалялася сваім сваяцтвам. За гэта яе сябры і знаёмыя паважалі.

З 1968 года Надзея Аляксандраўна працавала намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце ў сталічнай сярэдняй школе № 111, якая дзякуючы яе таленту стала на доўгія гады асяродкам самай сучаснай на той час методыкі выкладання рускай мовы і літаратуры ў Беларусі. Стварыла творчы калектыў настаўнікаў-славеснікаў, аднадумцаў і сяброў.

На сваіх уроках яна вучыла дзяцей параўноўваць творы вядомых пісьменнікаў, бачыць іх мастацкія асаблівасці; абуджала жаданне самім спрабаваць пісаць вершы, апавяданні, замалёўкі, нарысы. Дзеці вучыліся не толькі выразна чытаць, але і стваралі ілюстрацыі, пісалі рэцэнзіі на творы сучасных пісьменнікаў.

У школе № 111 праходзілі раённыя, абласныя, рэспубліканскія семінары. За асабліва паспяховае правядзенне рэспубліканскага семінара ў 1972-м міністр асветы БССР аб'явіў Надзеі Куляшовай падзяку.

Яна заўжды шчыра радавалася поспехам настаўнікаў, вартасць урокаў якіх адчувала, як ніхто, а заўвагі давала вельмі тактоўна, падказвала, як і што трэба памяняць, удакладніць ці дабавіць пры правядзенні ўрока.

Пад яе кіраўніцтвам у школе была створана багатая метадычная скарбонка ў дапамогу настаўніку: падрыхтавана паўрочная распрацоўка лірыкі А. Пушкіна, М. Лермантава, С. Ясеніна, А. Блока, творчасці І. Тургенева, М. Някрасава, Ф. Дастаеўскага і іншых. Гэты каштоўны досвед захоўваўся ў яе кабінеце.

У школе рэгулярна праходзілі літаратурныя вечарыны. Надзея Аляксандраўна дапамагала наладжваць сустрэчы вучняў з выбітнымі беларускімі творцамі, паэтамі, кампазітарамі — А. Куляшовым, Р. Барадуліным, С. Александровічам, А. Кашкурэвічам, Г. Бураўкіным, І. Лучанком.

Надзея Аляксандраўна выдатна ведала і рускую, і беларускую літаратуру. Добра помню яе цікавыя расповеды пра айчынных пісьменнікаў, многіх з якіх яна ведала асабіста. Узгадвала нязменна глыбокім пачуццём павагі. Асабліва запомнілася, з якой любоўю і спагадай яна гаварыла пра лёс рэпрэсіраванага пісьменніка і грамадскага дзеяча БССР Платона Галавача.

Падчас знаёмства з лірыкай А. Блока чыталі вершы рускага паэта ў перакладах А. Куляшова, вучыліся адчуваць прыгажосць і музычнасць роднай мовы. Вывучэнне «Слова аб палку Ігаравым» заканчвалі чытаннем перакладаў твора на беларускую мову, зробленых Янкам Купалам, Р. Барадуліным, а таксама перакладам М. Рыльскага на ўкраінскую. Параўнанне спрыяла развіццю мастацкага густу вучняў, выхаванню павагі да культур розных народаў.

*Цікава ведаць*

# Без стэрэатыпаў



У Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў ёсць выдатны калектыў з гучнай назвай «Талака» — так у старадаўнія часы называлася дапамога ўсёй вёскай. Пасля цяжкай працы жыхары збіраліся разам і ладзілі свята. Калектыў знішчае стэрэатып пра тое, што фальклор любяць толькі бабулі: удзельнікі гурта — яркія і крэатыўныя маладыя людзі. У аснове рэпертуара — каляндарныя песні, побытавыя танцы і гульні, сабраныя ў этнаграфічных экспедыцыях па ўсёй Беларусі. Музычны інструментарый «Талакі» складаюць дуды, скрыпкі, гуслі, цымбалы, бубен і керамічныя ўдарныя інструменты. Кіраўнік калектыву — Вячаслаў Калацэй, хармайстры — Таццяна Пладунова і Эвеліна Шчадрына. «Талака» — дыпламант фестываляў студэнцкай музыкі «Belfort» у 2003 і 2007 гадах (Францыя), «Покровские колокола — 2006» (Вільнюс), «Slaavi valgis — 2013» (Эстонія), «Как на речке было на Фонтанке — 2013» (Санкт-Пецярбург).

**Паліна ДУДАРАВА, фота аўтара**

# Коні ў яблыках



*Работа Валерыя Калтыгіна «Сітуацыя з сушкай».*

**На стромкім беразе Беразіны, у Бабруйскім раёне, адбыўся XII Міжнародны пленэр «Арт-Жыжаль». Майстар-клас цягам трох тыдняў давалі вядомыя керамісты Беларусі, Расіі, Украіны, Латвіі, Сербіі, Польшчы і Турцыі.**

Усе чакалі вогненнага цуду: агонь паступова набіраў сілу… Мы не бачылі скульптуру да абпалу, таму чакалі: што ж атрымаецца? І вось погляду адкрываецца палымнеючая кветка вышынёй больш як два метры. Дэкаратыўныя элементы — прарэзы ў выглядзе пялёсткаў — нагадваюць традыцыйную беларускую выцінанку.

Побач стваралі цуды іншыя ўдзельнікі пленэру. Было цікава назіраць за працай кожнага. Дзякуючы тэхніцы абвару, дэкаратыўныя абстрактныя формы, талеркі, конаўкі, вазы ператвараліся ў суцэльныя карункі, а тэракотавыя скакуны ў міг вока станавіліся коньмі ў яблыках. Літаральна зачароўвалі работы, створаныя ў тэхніцы дымлення: адны — матавыя, другія — глянцавыя з украпваннем каляровай глазуры...

І вось экспазіцыя гатова — плён работы больш як двух дзясяткаў керамістаў. Анатоль Концуб (Беларусь), адзін з патрыярхаў пленэрнага руху, знаны ўласным почыркам. Напрыклад, дэкаратыўныя дэталі работы «Вечар у вёсцы» выкананы ў дзвюх тэхніках: абвару і дымлення. Але больш за ўсё ўразіла яго кампазіцыя «Грыбны дождж» — гэта зафіксаваныя думкі, семантычныя знакі, якія дайшлі ад нашых продкаў.

Вольга Сямашка (Беларусь) дэманструе чысціню выяўленчых сродкаў, мінімум суб'ектыўнасці, пошукі складанага ў простым. Камурам Азлем Сарнік (Турцыя) паказвае глыбокія веды і ўменні ў тэхналогіі вырабу керамікі. Дзіяна Вернера (Латвія) у сваіх работах выкарыстоўвае трансфармацыю прыродных формаў (кару дрэў, каменне), тактоўна і прафесійна карыстаецца тэхналагічнымі прыёмамі. Архітэктоніка работ Максіма Калтыгіна (Беларусь) набыла новую структуру: канструкцыя бясконца вар'іруецца ў формаўтваральным і колеравым ладах.

Не першы год арганізацыяй пленэру займаецца Валерый Калтыгін — вядомы мастак, старшыня Бабруйскай гарадской грамадскай арганізацыі «Беларускі саюз мастакоў». Дзякуючы яго намаганням магілёўская зямля становіцца цэнтрам керамічнага мадэрнізму.

Выніковая выстаўка ўдзельнікаў XII Міжнароднага пленэру «АРТ-ЖЫЖАЛЬ» будзе працаваць у Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. У. Масленікава ўвесь верасень.

**Святлана СТРОГІНА, мастацтвазнаўца, намеснік дырэктара па навуковай працы Магілёўскага абласнога мастацкага музея імя П. У. Масленікава**

# Кантрасты Усходу

**Адразу тры выстаўкі — мастацкі праект «Фарбы блізкага Усходу», арганізаваны пры падтрымцы Пасольства Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь і Пасольства Рэспублікі Беларусь у Дзяржаве Ізраіль, — адкрытыя ў Нацыянальным гістарычным музеі. Свае творы прадстаўляюць ізраільскія мастакі Ганна Зарніцкая, Андрыян Жудро і фатограф Алік Замосцін, удзельнікі шматлікіх выставак, чые творы знаходзяцца ў музейных і прыватных калекцыях свету. Ініцыятарам праекта выступіла айчынная мастачка Зоя Луцэвіч.**



*Ганна Зарніцкая «Пеўні». Палатно, алей.*



*Андрыян Жудро «Мужчына, які сядзіць». Палатно, алей.*

Андрыян Жудро нарадзіўся ў г. Баранавічы Брэсцкай вобласці. Скончыў аддзяленне жывапісу Мінскага мастацкага вучылішча імя Глебава і аддзяленне дызайну Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. З 1990 г. жыў і працаваў у Расіі — у Хабараўску, дзе меў студыю ад Саюза мастакоў Хабараўскага краю. З 1999 г. — у Ізраілі.

«Матывы Усходу» — так называецца частка экспазіцыі, якая змяшчае палотны А. Жудро. «Успамін пра стары горад», «Начны Іерусалім», «Пейзаж з козамі», «Бедуін», «Бочка з віном», «Арка» — увасабленне шырокага творчага дыяпазону, насычанай колеравай гамы, кампазіцыйнай дакладнасці. Тут відавочная гармонія аўтарскай вобразнай сістэмы і выяўленчых сродкаў. Нічога не прыдумляючы і не перабольшваючы, мастак адлюстроўвае натуральнае хараство навакольнага свету. Натхняюць яго і біблейскія сюжэты.



*Ганна Зарніцкая «Квар Шауль (Іерусалім)». Палатно, алей.*



*Фота Аліка Замосціна*



*Андрыян Жудро «Пейзаж з козамі». Палатно, алей.*

Радзіма Ганны Зарніцкай, жонкі Андрыяна Жудро і аўтара часткі выстаўкі пад назвай «Рух колеру», — г. Іркуцк. Выпускніца Іркуцкага вучылішча мастацтваў і Маскоўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута (аддзяленне мастацкай графікі).

У Ізраілі Ганна з 1991 г. Член Асацыяцыі мастакоў і скульптараў, прэзідэнт Аб'яднання прафесійных мастакоў краіны. У 2012-м уганаравана дыпломам Міжнароднай акадэміі навук, адукацыі, індустрыі ды мастацтва (Каліфорнія, ЗША) за захаванне культурнай спадчыны.

Прастору твораў Г. Зарніцкая выбудоўвае з колеравых плям і дынамічных ліній, удала спалучаючы ўсё гэта з аб'ёмнасцю і эмацыянальнасцю малюнка («Джокер», «Дзяўчына з дыняй», «Нацюрморт з манга», «Гранаты»). Алегорыя і пластычная метафара, гульня колеру і святла неаддзельныя ад высокай назіральнасці, увагі да мастацкай дэталі. Галоўная мэта гэтага праекта — паказаць гледачам прыгажосць свету, у якім яны жывуць.

Што да Аліка Замосціна, то ён, ураджэнец Мінска, у межах праекта дэманструе публіцы фотавыстаўку «Мастацтва бачыць». Сюды ўвайшлі работы розных гадоў. Дарэчы, у нашай сталіцы А. Замосцін выстаўляецца ўпершыню. Праз прызму аб'ектыва ён углядаецца ў жыццё. Амаль 30 гадоў, неразлучны з фотакамерай, Замосцін пражыў у ЗША ды Канадзе, цяпер — у Ізраілі. На думку творцы, фатаграфія можа быць самастойным жанрам мастацтва. Позірк майстра здольная прыцягнуць такая, на першы погляд, звычайная рэч, як шклянка соку ці зморшчаны яблык.

Падчас адкрыцця выстаўкі слова бралі намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Чэрнік, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Ізраіля ў Беларусі Іосіф Шагал, дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Алег Рыжкоў. Паводле слоў Пасла, мастацтва — гэта галоўны код, які збліжае народы. Увогуле, калі асобасныя кантакты перарастаюць у міжнародныя праекты, гэта вялікі крок наперад у міжкультурным супрацоўніцтве.

**Яна ЯВІЧ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2315.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 28.08.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3205.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686